Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень
у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

**№ 82 (4334)**

16 кастрычніка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар.
Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
*Тэл. (8 017) 328 68 71*



БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Нашто маскоўскія царкоўнікі муцяць ваду ў Беларусі?

Упершыню ў гісторыі пасяджэнне Свяшчэннага сінода Рускай праваслаўнай царквы прайшло 15 кастрычніка ў Мінску. Але з якім знакам гэта падзея, калі зыходзіць з беларускіх нацыянальных інтарэсаў? Ці дадае Мінску славы тое, што адсюль Маскоўскі Патрыярхат спрабуе даць, груба кажучы, адлуп украінскай аўтакефаліі?

Хтосьці заўважыць: дык тое ж справы царкоўныя, а не свецкія. Але ў тым і справа, што РПЦ гістарычна вельмі шчыльна паяднаная з дзяржавай. Скажам яшчэ болей канкрэтна — з імперскай палітыкай Масквы. РПЦ была і застаецца інструментам прасоўвання вялікадзяржаўных інтарэсаў. Што дэ-факта ўваходзіць у супярэчнасць з задачай умацоўваць незалежнасць Беларусі.

Паказальны штрых: цяперашні кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліт Павел насуперак нашаму заканадаўству заняў гэту пасаду, не маючы беларускага грамадзянства. Нарадзіўся ж ён у Карагандзе, перад прызначэннем у Мінск кіраваў Разанскай мітраполіяй. Кажуць, Аляксандр Лукашэнка хацеў бачыць на чале БПЦ іншага, тутэйшага чалавека, але працiснуць кандыдатуру не здолеў, меркаванне Маскоўскага Патрыярхату аказалася вырашальным.

Цяпер жа сам візіт патрыярха Кірыла быў абстаўлены так пампезна, суправаджаўся такімі мерамі бяспекі, што нагадаў нядаўні прыезд Уладзіміра Пуціна ў Магілёў. Патрыярх прыляцеў у Мінск на беларускім урадавым самалёце, да сталічнага Свята-Духава сабора пад'ехаў на чорным «мерседэсе» і не стаў вітаць ды благаслаўляць простых смяротных. У храм можна было патрапіць толькі па прапусках, астатнія глядзелі набажэнства на вялікім экране. А мясцовага святара Аляксандра Шрамко, які ў «Фэйсбуку» раскрытыкаваў адчужанасць патрыярха ад паствы, паводле паведамленняў некаторых СМІ, адхілілі ад службы. Не дагадзіў, бач, Маскве.

РПЦ уважае Беларусь за сваю кананічную тэрыторыю. У мінулую нядзелю падчас ютрані ўсяночнага трывання ў Свята-Духавым кафедральным саборы Мінска патрыярх Кірыл заявіў: “Белая Русь — гэта асаблівая частка гістарычнай Русі”.

Ён жа, крытыкуючы намер Украіны дамагчыся аўтакефаліі сваёй праваслаўнай царквы, зазначыў: “Мы ведаем, як сёння няпроста на брацкай украінскай зямлі. Мы ведаем, як вораг роду чалавечага апалчыўся на царкву праваслаўную…” Іначай кажучы, украінская ўлада фактычна параўноўваецца з д'яблам.

Што ж прымусіла Маскоўскі Патрыярхат пагнаць такую хвалю супраць Кіева?

Нагадаю: у красавіку прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка звярнуўся да Канстанцінопальскага Патрыярха Варфаламея з просьбай выдаць Томас аб аўтакефаліі праваслаўнай царквы ва Украіне. Працэс пайшоў. Днямі сінод Канстанцінопальскага Патрыярхату пацвердзіў намер даць украінскай царкве аўтакефалію, а таксама скасаваў рашэнне 1686 года, якім Кіеўская мітраполія перадавалася ў кіраванне Маскве.

Так, за гэтым стаіць палітыка. Як зазначае расійскі журналіст Канстанцін Эгерт, “*незалежная ўкраінская царква стане відавочным сімвалам правалу постсавецкага неаімперыялізму пуцінскага рэжыму*”.

Але ж ініцыятыва Парашэнкі цалкам зразумелая пасля Крыма, крывавых падзей на ўсходзе Украіны і з улікам той праімперскай пазіцыі, якую прадэманстравала ў звязку з гэтым РПЦ. Таму для Кіева аўтакефалія — гэта, калі хочаце, сродак абароны ад расійскай агрэсіі ў царкоўным уборы, ад пятай калоны Крамля.

І наракаць за раскол іерархам РПЦ лагічна было б найперш на Крэмль, які благаславіў захоп Крыма, сепаратызм на Данбасе. Але ж пра гэта рускія папы трымаюць маўчанне. Яны бэсцяць украінскую ўладу.

Скажам адкрытым тэкстам: у выпадку з Украінай Маскоўскі Патрыярхат страчвае вялікі кавалак пірага. Крэмль жа адчувае за гэтымі працэсамі і страту свайго палітычнага ўплыву. Таму днямі прэс-сакратар расійскага прэзідэнта Дзмітрый Пяскоў заявіў, што Расія будзе бараніць інтарэсы праваслаўных ва Украіне. На досведзе “абароны рускамоўных” у постсавецкіх краінах мы добра ведаем, да чаго можа прывесці такі “клопат”.

І вось цяпер Крэмль ды Маскоўскі Патрыярхат, плятучы свае інтрыгі, могуць дэ-факта ўцягнуць беларусаў у канфлікт з украінцамі.

Нашто нам гэта? Яшчэ болей, расійскі протадыякан Андрэй Кураеў у інтэрв'ю “Росбалту” выказаў меркаванне, што “*паколькі скасоўваецца Патрыяршая грамата 1686 года аб пераходзе Кіеўскай мітраполіі пад Маскву, то скасаванне тычыцца і Беларусі. Тады, у XVII стагоддзі, Рэч Паспалітая і Кіеўская мітраполія ўключалі ў сябе і беларускую тэрыторыю*”.

Насамрэч, вядома, ні БПЦ, ні Лукашэнка не наважацца рваць з Масквой. І для беларускага кіраўніцтва пытанне тут не ў “духовных скрепах”, а найперш ў эканамічнай залежнасці ды рызыцы патрапіць пад капітальную раздачу.

Але мяркую, што нават цяперашнія беларускія ўлады пастараюцца спакваля аслабіць уплыў Маскоўскага патрыярхату на Беларусь. Увогуле ж чым меней таго ўплыву, тым лепей для нашай незалежнасці. Не трэба, каб Масква ўцягвала беларусаў у свае царкоўна-палітычныя гульні. Бывай, імперыя!

УЧОРА

## Лукашэнку падарылі Новы Запавет на беларускай мове

Члены Святога сінода Рускай праваслаўнай царквы і Сінода БПЦ падарылі Аляксандру Лукашэнку ўнікальны асобнік перакладзенага з старажытнагрэчаскай на сучасную беларускую мову Святога Пісьма Новага Запавету.

Як распавёў Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел, Патрыяршы Экзарх усёй Беларусі, беларускія навукоўцы працавалі над перакладам Пісання 25 гадоў. «Гэта вельмі доўгая, карпатлівая праца. Але навукоўцы справіліся, і сярод іх былі нашы святары», – адзначыў ён.


Фота Белта.

ДАСЛОЎНА

## «Вымалёўваецца надзея на візіт Папы Рымскага ў Беларусь»

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч упершыню ўдзельнічае ў працы Сінода Біскупаў, які праходзіць у гэтыя дні ў Ватыкане. Некалькі разоў кіраўнік беларускага Касцёла сустракаўся з пантыфікам сам-насам. Падчас адной такой сустрэчы – 11 кастрычніка па дарозе ў залу Паўла VI – мітрапаліт Кандрусевіч пагаварыў з Папам Францішкам пра яго магчымы візіт ў Беларусь.

– *Папу я прывітаў словамі на італьянскай мове: “Добры дзень, Ваша Святасць!”*, – расказаў арцыбіскуп пра акалічнасці сустрэчы ў інтэрв'ю парталу catholic.by. – *Ён адразу пазнаў мяне і, як стары знаёмы, спытаўся, як ідуць справы ў Беларусі, падкрэсліваючы, што прэзідэнт жадае яго візіту ў Беларусь.*

*Я сказаў, што час ідзе наперад, і, як падаецца, надзея на такі візіт вымалёўваецца.*

Трэба адзначыць, што ў лютым Тадэвуш Кандрусевіч казаў, што сёлета візіт Папы Рымскага ў Беларусь немагчымы, паколькі графік візітаў пантыфіка ўжо распісаны. *“Аднак ён вельмі хацеў бы прыехаць”*, – заявіў тады кіраўнік беларускага Касцёла.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

НЕДВИЖИМОСТЬ

## Квартиры любой ценой?

Удивительно, но факт: белорусы массово берут кредиты на жилье, несмотря на высокие ставки. Риелторы приводят любопытную статистику: в августе число сделок по недвижимости с привлечением кредитных средств резко выросло – на 27% по сравнению с июлем.

Такая тенденция наблюдается, несмотря на постепенный рост ставок по кредитам. Например, отмечает Realty.tut.by, в апреле взять кредит на жилье в «БПС-Сбербанке» можно было под 14,5% в первый год и 13% далее, в мае – под 15,5%, а в июне уже под 16,45%. Поднимал ставку и «Приорбанк»: с 10,5% до 11% в первый год и 14% далее.

По мнению экспертов, ситуация могла быть вызвана неопределенностью на банковском рынке: люди боялись еще большего роста кредитных ставок и быстрее принимали решение о покупке жилья.

ОФИЦИАЛЬНО

## Уганда, Камерун, Тунис

*Кто покупает белорусские лекарства?*

15 октября профессиональный праздник отметили работники фармацевтической и микробиологической промышленности. Эта отрасль в Беларуси активно развивается. В стране работает 39 предприятий по выпуску лекарственных средств, поставлена цель к 2022 году половину производимых в Беларуси лекарств экспортировать.

В каких странах сегодня пользуются спросом белорусские таблетки и медикаменты?

По словам генерального директора Управляющей компании холдинга «Белфармпром» **Валерия Шевчука**, белорусские лекарственные препараты сегодня покупают 35 государств, 10 из них – это страны СНГ.

– *Среди стран дальнего зарубежья наиболее освоены Вьетнам, Грузия, Сирия, Ирак, Монголия*, – рассказал Валерий Шевчук medvestnik.by. – *В ближайшей перспективе прогнозируются поставки в Шри-Ланку, налаживается экспорт в Пакистан и Афганистан. Продолжаются работы по продвижению белорусских лекарственных средств в страны Ближнего Востока: Ирак, Йемен, Иорданию и Сирию. Активно проводится работа по освоению рынков Восточной Азии – Монголии и Южной Кореи. Уже осуществлены разовые поставки отечественных лекпрепаратов в страны Африки – Уганду, Камерун и Тунис, имеются планы по освоению рынка Алжира, Ливии, Танзании.*

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор,
доктор экономических наук

## …А в Нацбанке не нервничают

С первых дней октября мы наблюдаем вторую волну обвального падения белорусского рубля. Если российский рубль частично отыграл свою девальвацию в конце августа и сумел, благодаря повышению Центробанком РФ ключевой ставки, зацепиться на 65–66 единицах к доллару и 75–76 единицах к евро, то Нацбанк свою ставку рефинансирования менять не стал. С августа, когда началась первая волна ослабления белорусского рубля, по октябрь общая девальвация по доллару составила 6,7%. В первой декаде октября пара рубль–доллар поднималась до 2,16, а евро–рубль до 2,47. Только к началу второй декады рубль чуть притормозил (2,15 и 2,46).

Поняв, что девальвация «зайчика» приобретает чуть ли не системный характер, белорусы запаниковали. Они резко снизили чистую продажу наличной валюты, а безналом стали закупаться впрок. Если в августе наши соотечественники вместе с предприятиями отнесли в банки на 80,8 млн долларов (в эквиваленте) больше, чем купили, то в сентябре чистая продажа сменилась чистой покупкой (181,8 млн). Зачем продавать стремительно дорожающие доллары и евро? Граждане купили бы и больше, да «лишних» рублей маловато. По безналу в сентябре они все-таки забрали из банковской системы 82,2 млн долларов. Больше было только в январе 2016 года (91,1 млн). Надо учесть, что введение Нацбанком безотзывных вкладов «заморозило» рубли, которые физические вкладчики, не купись они в очередной раз на соблазнительные проценты, обратили бы скорее в валюту.

Судя по всему, на бирже в сентябре Нацбанку впервые с начала года не удалось разжиться валютой и пополнить золотовалютные резервы государства. По тому, как слабел рубль, можно предполагать, что биржевой спрос на валюту превышал ее предложение. Естественно, валютные резервы страны вновь стали худеть: 6,926 млрд долларов в эквиваленте на 1 октября 2018 после 7,2 млрд в последнем измерении. Только в сентябре от начала года они снизились на 389 млн долларов. Понятно, что величина золотовалютных резервов колеблется в зависимости от их пополнения биржевыми покупками Нацбанка и поступлениями от внешних и внутренних займов и моментов погашения долгов наших тяжких. Ежемесячно Минфин и Нацбанк возвращают кредиторам сотни миллионов долларов и евро. С начала года уже отдали 4,4 млрд долларов (в эквиваленте). Поэтому влиять Нацбанку на результаты биржевых торгов посредством валютной интервенции – особо не разогнаться. Останешься без штанов. Уже есть прогнозы, что белорусский рубль вновь имеет все шансы взять свой девальвационный рекорд февраля 2016 года – 2,20 за «зеленый».

Впрочем, ситуация с валютой терпимая, бывало и хуже. Во-первых, со дня на день денежные власти после почти годового ожидания рассчитывают на поступление шестого транша кредита Евразийского банка в размере 200 млн долларов. Во-вторых, на октябрь приходится уплата квартальных налогов, и не у всех плательщиков будет для этого достаточно рублей. Уже все это может поправить наши резервы и успокоить валютный рынок. Тот факт, что Нацбанк не тронул ставку рефинансирования для курсового укрепления белорусского рубля, говорит о том, что там особо не нервничают. Ведь в Основных направлениях денежно-кредитной политики записаны золотовалютные резервы на конец года в сумме не менее 6 млрд долларов. К тому же и нефть дорожает, цены на нее находятся на максимуме почти за четыре года, что может пополнить дополнительно национальную «копилку».

Но с ноября реально начнут действовать антироссийские санкции США. Как с ними будет справляться российская экономика – не известно. Прогнозы на этот счет всякие: от оптимистических со стороны российского руководства до пессимистических со стороны Запада. А от здоровья рынка нашей восточной соседки сами знаете, сколько зависит в экономике Беларуси. У России, несмотря на ее 460 млрд долларов золотовалютных резервов, у самой напряженка с валютой. За август, например, физические лица, наблюдая за девальвационным падением «деревянного» (до 70 единиц за доллар и 80 единиц за евро), вывели из банковской системы 1,5 млрд долларов, а юридические – 4,9 миллиарда. Из российского госдолга бегут нерезиденты, распродавая облигации Минфина на миллиарды долларов. Совокупный долг правительства РФ и экономики превышает золотовалютные резервы страны. Поэтому Россия, рискуя остаться без требуемого запаса валюты, не прочь сэкономить на Беларуси, которая просит еще 1 млрд долларов на рефинансирование долгов той же России. США стараются сбить мировые цены на «черное золото», урезать доходы российской казны. Правда, это не устраивает их главного нефтедобывающего союзника – Саудовскую Аравию. Американцы вновь обложили санкциями Иран. Из-за нефтяного эмбарго он снизил экспорт основного продукта на треть, что подтолкнуло наверх мировые цены на нефть. Может, и выкрутятся на таких противоречиях Россия и Беларусь вместе с ней? А может, придется все-таки идти на реформы? Все это неопределенно и стремно как-то…

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## «Улада нагадвае тэлефон, у якім заблакіраваны экран…»

*Праваабаронца **Валянцін Стэфановіч** рассказаў пра “эпахальную падзею” – на пасяджэнні Камітэта па правах чалавека ААН афіцыйны Мінск упершыню за 21 год прадставіў сваю справаздачу аб выкананні Міжнароднага пакта грамадзянскіх і палітычных правоў.*

– Там была прэзентаваная і альтэрнатыўная справаздача, падрыхтаваная праваабарончай супольнасцю, а вось візіт у Жэневу дзяржаўных чыноўнікаў – гэта, безумоўна, даволі незвычайная з'ява, – кажа наш суразмоўца. – Дэлегацыя была даволі прадстаўнічая – акрамя МЗС былі і некаторыя іншыя ведамствы: прадстаўнікі Міністэрства інфармацыі, МУС, Следчага камітэта, Генеральнай пракуратуры, Вярхоўнага суда, Міністэрства аховы здароўя…

Пасля даклада беларускім чыноўнікам задавалі вострыя пытанні, і гэта, відаць, было самай цікавай часткай мерапрыемства. Запытваліся пра нерэгістрацыю многіх аб'яднанняў і партый, пра палітвязняў, пра “справу прафсаюзаў” і “справу БЕЛТА”. Адказы былі прыкладна такія: пра “прыватныя моманты” нічога распавядаць не збіраемся, а наша пазіцыя выкладзена ў дакладзе. А ўвогуле, у мяне засталося сумнае ўражанне ад удзелу беларускай дэлегацыі ў мерапрыемстве.

**– Чаму?**

– У Жэневе Беларусь прадэманстравала грэблівае стаўленне да сваіх міжнародных абавязацельстваў. З высокай трыбуны прагучала, што беларуская дзяржава не лічыць патрэбным выконваць рашэнні Камітэта па правах чалавека па індывідуальных зваротах грамадзян і таксама не будзе выконваць працэдуры камітэта.

Гэта была сур'ёзная заява, у афіцыйнай дэлегацыі нават перапыталі: “Вы насамрэч адмаўляецеся ад супрацоўніцтва з Камітэтам па правах чалавека?” У адказ прагучала, што, маўляў, ад супрацоўніцтва не адмаўляемся, але рашэнні выконваць не будзем. На што адзін з сябраў камітэта вельмі трапна і вобразна сказаў: беларуская ўлада нагадвае тэлефон, у якім заблакаваны экран. Быццам бы тэлефон і працуе, але патэлефанаваць з яго немагчыма.

Дарэчы, звароты ў Камітэт па правах чалавека – гэта адзіны міжнародны інструмент, які мы выкарыстоўвалі для абароны правоў людзей. Іншых проста няма. А зараз заява беларускай дэлегацыі проста нівеліруе норму Канстытуцыі, якая гарантуе грамадзянам краіны права звяртацца ў міжнародныя арганізацыі, калі вычарпаны ўсе магчымасці абароны правоў унутры краіны. Але, як бачым, на правы наплявалі з высокай трыбуны. Пры гэтым месцамі ўсё гэта гучала з вуснаў чыноўнікаў на павышаных танах…

**– Нягледзячы на тое, што па “справе БЕЛТА” яшчэ нават суда не было, прадстаўніца Следчага камітэта ўжо назвала дзеянні фігурантаў справы “банальным хакерствам”…**

– Можа быць, яна ўжо вынесла людзям свой прысуд? Відаць, жанчына забылася, што знаходзіцца не ў Следчым камітэце, і мне было проста сорамна за гэтых чыноўнікаў.

Але даклад прагучаў, і зараз паўстае пытанне: што далей рабіць з заявай беларускай дэлегацыі? Па выніках слуханняў ужо ў лістападзе Камітэт па правах чалавека падрыхтуе для ўрада Беларусі свае рэкамендацыі. Іншая справа, як усё гэта будзе імплементавана ў рэальнае жыццё. Ідэальным варыянтам было б, каб гэтыя рэкамендацыі былі ўлічаны ў наступным Нацыянальным плане. Але, баюся, усё гэта застанецца на паперы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КАРТИНА ЖИЗНИ

# «Я на дачу еду – плачу…»

*Стрессы, суды и скандалы. Так в трех словах можно описать дачную жизнь членов садового товарищества «Верес Бруморовщины», которое находится в шести километрах от Фаниполя, что под Минском.*
*Устав от бесконечных разборок и выяснений отношений (а иной раз не обходилось даже без рукоприкладства), больше десятка человек покинули проблемное товарищество и создали прецедент: зарегистрировали новое – «Долина Бруморовщины». Казалось бы, вот они – счастье и свобода! Но тут началось самое интересное: чиновники требуют вернуть выданное ими же свидетельство о регистрации! Через суд…*

Мои собеседники основательно подготовились к разговору – пришли со стопкой бумаг, фотографий, ксерокопий документов, свидетельствующих, скажем так, о не совсем нормальных отношениях между членами садового товарищества «Верес Бруморовщины».

Они не скрывают своих имен и хотели, чтобы эта история была максимально заперсонифицированной. Рассказывают, кто в их бывшем товариществе пьет, кто ворует электроэнергию, кто является постоянным зачинщиком скандалов на общих собраниях, с кем невозможно вести конструктивный диалог, как преследуются и унижаются люди, которые требуют элементарного соблюдения устава товарищества, а также обоснованности и открытости расходования финансовых средств. В принципе, каждый герой этой истории заслуживает отдельной публикации – интересные люди, трагические повороты судьбы.

Но я решила все-таки обезличить. Не в именах дело. Скорее, это вопрос гражданской сознательности и несовершенства законов.



## Белорусская «Рублевка»

«Почти 30 лет назад моя мама ушла на пенсию, была расстроена, что осталась не у дел, и я решил построить для нее дачу, чтобы чем-то увлечь, – *рассказывает один из коренных обитателей Бруморовщины*. – Участок получила теща у себя в организации – райпищеторге Московского района.

Мама не верила, что стройка когда-то закончится. Дом получился неплохой, комфортный. Вложили в него всю душу… Я был одним из первых, кто привез на дачный участок газонокосилку и начал сеять и стричь траву. На нас смотрели квадратными глазами и прозвали «газонщиками». Сейчас забавно об этом вспоминать, но так было!

Во времена перестройки достаток был примерно у всех одинаковый. Кто-то, правда, был директором магазина, кто-то – продавцом, но эта разница была не очень заметна. Прошли десятилетия. И люди стали совершенно разными. Одни – успешные, у них с большего все в порядке с работой, с детьми. Другие в свое время не могли надышаться свободой, увязли в бесконечных праздниках и застольях. И вот сейчас в нашем садовом товариществе возник такой сумасшедший конфликт – на уровне классовой ненависти.

Противостояние вышло за пределы «Вереса Бруморовщины»: у нас бесконечные суды по разным поводам! То претензии по недоплате денег, то драки, то оскорбления. Любые собрания превращаются просто в свалку, причина та же – классовый, социальный конфликт. Чтобы ни предложили более-менее обеспеченные люди, по умолчанию не принимается. Но проблема в том, что те, кто не очень состоялся в жизни, пристроились в товариществе казначеями, вошли в состав ревизионной комиссии и тихонько пытаются заработать…»

«Лет 10 назад получилось так, что наше товарищество осталось без воды, – *рассказывает семейная пара, которая давно владеет дачным домом в Бруморовщине*. – Вопрос обсуждали на общем собрании, и люди разделились на три лагеря. Первые сразу сказали да, вторые могли подключиться к воде в соседних товариществах, а для третьих эта тема вообще была неактуальна – они приезжали на дачу пожарить шашлыки. В итоге мы сделали скважину, поставили водонапорную башню, провели полтора километра подземного всесезонного водопровода. Для каждого это обошлось примерно в 330 долларов в эквиваленте. Собрать деньги была проблема!

Мы создали новое правление товарищества, начали разбираться с платежами и обнаружили, что некоторые годами не платят взносы. А деньги на все нужды собирались наличными. Мы открыли счет в банке, начали проверять электросчетчики и обнаружили тех, кто, скажем так, заимствовал электроэнергию у товарищества. Также предприняли активные действия к тем, кто ведет асоциальный образ жизни. Вынуждены были поставить вопрос об исключении из товарищества одной семьи, поскольку в их доме был почти притон, куда по ночам съезжалась пьяная молодежь из близлежащих деревень. В общем, мы навели порядок.

Но взамен председатель товарищества начал получать угрозы, поэтому принял решение уйти. В 2012 году председателем товарищества была избрана женщина, при которой скандалов и неразберихи стало еще больше… Она сразу неожиданно заявила: «Мы не позволим устраивать тут Рублевку!» А те, кто больше всего сделал для товарищества с момента его основания, получили новое прозвище – «рублевщики».

Хотя чем плоха Рублевка? Что там порядок, нет бурьяна и колдобин?»

## «На свою родную дачу я немало денег трачу…»

«В прошлую зиму энергосбыт отключил нам электричество, – *продолжают дачники*. – За неуплату. Средства поступали на счет, но шли не на нужды товарищества, не на оплату электроэнергии, а на зарплату руководства товарищества и прочие удивительные расходы. Как выяснилось, за полтора года не было ни одного платежа в энергосбыт. Мы были вынуждены покупать генераторы, чтобы отапливать свои дома…

У Остапа Бендера было свыше сорока относительно честных методов отъема денег у граждан. В нашем случае этот известный персонаж стоит в стороне и нервно курит. На одном из собраний членам товарищества раздается удивительный документ – памятка, куда платить деньги, поскольку расчетный счет товарищества заблокирован судебным исполнителем. Получатель – Столбцовское МРО «Энергосбыт», а расчетный центр указан цифрами и принадлежит с/т «Верес Бруморовщины».

Решением собрания устанавливается целевой сбор на очистку противопожарного водоема, собираются деньги. А в действительности спилили многолетние деревья на берегу, заготовили на зиму дрова, а мелкие ветки сбросили на дно водоема.

Мы проанализировали договоры товарищества, и, по нашим подозрениям, речь идет о нецелевом и неэффективном использовании средств на очень приличную сумму. Мы планируем готовить материалы для следственных органов.

Мы приглашали ныне действующего председателя на разговор, но он не нашел времени, чтобы с нами встретиться.

На наш взгляд, эта проблема носит общегосударственный, социальный характер. Потому что почти в каждом товариществе такие истории…»

## Выход есть!

«Приезжаешь на дачу, а там новые разборки! – *разводит руками один из присутствующих, который любит свой дом в Бруморовщине*. – Это была какая-то тупиковая ситуация. И мы решили зарегистрировать новое товарищество. Тем более что законодательством это не запрещено. Так у нас появилась своя «Долина Бруморовщины».

Мы открыли новый расчетный счет и предложили «Вересу Бруморовщины» заключить договор на совместное использование водопровода, электричества, дорог и так далее. В договоре заложены взаимоотношения между двумя юридическими лицами – с соответствующим контролем расхода денег, закупки материалов, выбора поставщика услуг и так далее. Народ сразу потянулся к нам. И тут мы узнаем, что в Дзержинский исполком поступила жалоба на то, что нас якобы зарегистрировали неправильно!

Как выяснилось, в пакете документов, которые приняли для регистрации, не было справки из земельного отдела о выделении нам земли. При регистрации мы сказали, что нам данная справка не нужна, поскольку земля у нас уже есть в частной собственности и назначение использования не меняется: все то же коллективное садоводчество. Чиновник, оформлявший регистрацию, с этим согласился».

## Лоб в лоб

*«Народная Воля» выслушала и тех, у кого другой взгляд на то, что происходит.*

«Они нагло врут, на собраниях ведут себя по-хамски! – *говорит другая сторона о «рублевщиках»*. – Они как раковая опухоль – постоянно мутят воду. В свое время собирались деньги на водную систему – документы отсутствуют, концов не найти. Не платят взносы, не отчитываются за платежи, не допускают для сверки счетчиков, мы вынуждены обращаться в суд!..

Хотите выйти – выходите на здоровье! Но, согласно указу президента, в течение года они должны будут распорядиться своим имуществом – продать, переписать и так далее. Сейчас они пытаются нам навязать контракт между двумя товариществами о совместном пользовании инфраструктурой. Ну а как подписывать договор о каком-то сотрудничестве, если их зарегистрировали с нарушениями? К тому же исполком рекомендовал нам не подписывать никаких договоров с «Долиной Бруморовщины».

## «Родная дача, милый огород и в придачу – множество забот»

«Я купила дачу в Бруморовщине в 2012 году, – *рассказывает красивая представительная дама*. – И оказалась втянута в какие-то бесконечные разборки. Мне почти сразу предложили определиться, в каком лагере я буду.

Раньше и не предполагала, что в рамках садового товарищества можно судиться, не для этого участки приобретаются!

Закрытость отчетности – почему? Я как собственник имею право знать, как начисляются те или иные платежи, как расходуются мои деньги. Не хочу каких-то необдуманных трат.

Я хочу приезжать на дачу и отдыхать, а не обсуждать проблемы и слушать сплетни. Меня интересует природа, погода, урожай, я не хочу слышать проклятий в свой адрес. Мне надоели трехчасовые собрания, которые каждый раз заканчиваются скандалами. Надоело, что руководство товарищества не советуется с людьми, прежде чем что-то сделать. А ведь у нас не единоличное правление. У нас каждый начальник на своих пяти сотках.

Поэтому мы зарегистрировали новое товарищество и благодарны Дзержинскому исполкому за оказанное содействие.

Когда-то председатель Дзержинского райисполкома сказал, что в Дзержинский район приезжает около 30.000 дачников. В последнее время дачные участки стали покупать молодые семьи. Людям нравится работать на земле, тем более что сейчас не обязательно делать грядки, можно просто выехать на природу, отлично провести время.

Мы объединились в новое товарищество, потому что недовольны одним и тем же. И считаем, что имеем на это право и что органы местной власти должны нас только поддержать. Не в их интересах приезжать к нам на собрания и тратить три рабочих часа на выслушивание чужих скандалов. Проще, чтобы люди самоопределились и спокойно жили.

Нам стало легко дышать, когда мы разделились. К нам хотели присоединиться и другие люди. И кто сказал, что они не имеют права? Разве мы сами не можем решить, с кем жить, в каком садовом товариществе быть? У нас свободная, демократическая страна.

Есть указ президента, который регламентирует деятельность садовых товариществ, но там речь идет об их основной деятельности, а ведь есть еще и нюансы. И количество дачников с каждым годом только увеличивается. Конечно, время требует и перемен, и возможностей. В том числе и разделения товариществ. Возможно, со временем понадобится отдельный нормативно-законодательный акт о порядке осуществления деятельности в садовых товариществах. Людей много, проблем много. И надо дать возможность их решать!

Проблема номер один садовых товариществ – самоуправление. К сожалению, оно не работает. Потому что люди слишком разные, с разными представлениями о жизни. И, к сожалению, с низкой социальной ответственностью…»

## «А над дачей небо плачет…»

«С регистрацией нового товарищества наш многолетний дачный кошмар закончился, как дурной сон, – *рассказывают дачники*. – Взаимоотношения среди членов товарищества спокойные и уважительные, собрания – деловые и результативные. Ежемесячно оплачиваем в энергосбыт электроэнергию. Мы надеялись на то, что в ближайшее время все-таки заключим договор с соседями о совместном управлении общей инфраструктурой, который уже подготовлен членами обоих товариществ.

Но…

На днях в суд поступил иск о ликвидации регистрации садового товарищества «Долина Бруморовщины».

Вся эта история иллюстрирует, как провинциальные чиновники, которых содержим мы, налогоплательщики, способны нейтрализовать норму указа президента о возможности реорганизации садовых товариществ, придумав «квадратно-гнездовые» требования для справок. В результате «дачный вопрос» вместо фактора стабильности превратили в повод для значительного социального напряжения и народного недовольства властью.

В этой истории, как в зеркале, отражаются все проблемы нашего общества. К сожалению, история оставила нам в наследие огромное количество людей, не способных самостоятельно управлять своей жизнью, с минимальным уровнем социальной ответственности и с иждивенческими претензиями ко всем, включая представителей власти.

Мы намерены бороться за свою свободу».

ОФИЦИАЛЬНО

## «Была допущена ошибка регистратором»

*Начальник отдела экономики Дзержинского райисполкома Ирина Барановская рассказала «Народной Воле», какую ошибку допустили при регистрации «Долины Бруморовщины».*

– Была допущена ошибка регистратором, – *объяснила Ирина Михайловна*. – Не имели права регистрировать без справки землеустроительной службы о возможности предоставления земельного участка для садового товарищества. По законодательству такая справка требуется для садоводческих товариществ и крестьянских фермерских хозяйств.

**– Но ведь у них есть земля, они собственники своих домов.**

– У них, как и у любого члена садового товарищества, есть домик и земельный участок, оформленный на физическое лицо. Но все эти участки – они не одно целое, которое можно выделить из состава, они разбросаны по территории всего товарищества. А так нельзя! Это же не физическое лицо создает одно садоводческое товарищество с одним земельным участком и домиком, а совокупность собственников.

Садовое товарищество предполагает четкие границы земельного участка, на котором расположены строения членов садоводческого товарищества.

СЛОВО АДВОКАТА

## «Действие двух садовых товариществ на одной территории не противоречит законодательству»

– В соответствии с уставом «Вереса Бруморовщины», садовое товарищество может иметь в собственности имущество, состоящее из объектов общего пользования товарищества и его денежных средств, – *комментирует ситуацию адвокат* ***Валентина Клищенкова***. – То есть земельные участки, находящиеся в собственности членов товарищества, не относятся к имуществу садового товарищества.

Члены садового товарищества вправе выйти из товарищества по своему усмотрению в любое время, согласие других членов на это не требуется. Для этого просто необходимо подать заявление в правление. Членство в товариществе прекращается со дня подачи такого заявления.

Те, кто вышел из состава товарищества, обязаны в течение года произвести отчуждение находящихся у них на праве собственности земельного участка и жилого дома. В указе президента о мерах по упорядочению деятельности садоводческих товариществ эта норма также прописана. Но это сделано для того, чтобы участок не остался без хозяина. Бывают случаи, когда земельные участки вместе с садовыми домиками продаются, дарятся, наследуются. Тогда в течение года новый собственник должен вступить в члены товарищества. Порядок принудительного отчуждения земельного участка и садового домика, находящего в частной собственности, не регламентирован.

Можно ли создавать новое садовое товарищество? Законодательством не предусмотрено ограничений для создания новых садоводческих товариществ на территории уже действующих. На мой взгляд, действие двух садовых товариществ на одной территории возможно и не противоречит законодательству. Что касается мест общего пользования (дороги, электроосвещение и прочее), то можно заключать договор о совместной эксплуатации.

**Марина КОКТЫШ.**
*Дзержинский район.*

АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА

# Чаму беларускім пенсіянерам трэба хадзіць на працу?

*Амаль кожны трэці пенсіянер у Гродне, паводле афіцыйнай статыстыкі, працягвае працаваць. Усяго ў абласным цэнтры зараз налічваецца каля 70 тысяч людзей сталага веку, і 20% з іх яшчэ ходзяць на працу.*

*Сёлета ў Гродзенскі цэнтр па працы і занятасці насельніцтва па пытанні працаўладкавання звярнуліся 160 жыхароў горада, якія знаходзяцца на пенсіі. «Народная Воля» пацікавілася ў працуючых пенсіянераў, што прымушае іх працаваць у той час, калі яны ўжо могуць адпачываць са спакойным сумленнем.*

## «Буду працаваць пакуль ногі носяць»

**Галіна Вайцешчык** мае 32 гады працоўнага стажу. Працавала на розных прадпрыемствах тэкстыльнай прамысловасці, у службе быту і абслугоўвання насельніцтва, у гандлёвай сферы, а таксама займалася прадпрымальніцкай дзейнасцю. Зараз атрымлівае 370 рублёў пенсіі. Разам з мужам выгадавала пяцярых дзяцей і мае траіх унукаў. Цяпер падзарабляе капейчыну да пенсіі тым, што прыбірае ў офісах некалькіх фірмаў. Заробак мае трохі больш, чым пенсія.

*«Мушу сказаць, што я папросту не магу сядзець у хаце, з дзяцінства люблю працаваць,* – распавядае Галіна Вайцешчык. – *Нідзе ніколі ні на што не скардзілася, праўда, і вялікіх грошай не зарабіла. Каб у мяне было адно дзіця, то я, можа, нікуды больш і не хадзіла б на працу, але ў мяне пяцёра дзяцей, трое ўнукаў, і ўсім трэба дапамагчы. І працаваць, відаць, давядзецца да той пары, пакуль ногі носяць».*

## «У Швецыі за 4 дні працы мог жыць цэлы месяц, а нашай пенсіі хапае толькі на 4 дні...»

**Мікалай Баўсюк** большую частку працоўнай дзейнасці прысвяціў Гродзенскаму заводу такарных патронаў. Праўда, прызнаецца, даводзілася працаваць і ў некалькіх месцах адразу. Зараз ён жыве на вёсцы, падпрацоўвае ў фермера і трымае ўласную гаспадарку. Ягоная пенсія складае 250 рублёў.

*«Ведаеце, за маю пенсію нават на вёсцы можна пражыць толькі чатыры дні: заплаціў за камуналку з газавым ацяпленнем, ваду, тэлефон, схадзіў у краму за харчамі – і гэтых грошай няма,* – распавядае Баўсюк. – *Гэта шчасце, калі яшчэ маеш здароўе і працуеш. Фермеру дапамагаю, то ён мне і бульбы дасць на пасадку, і кармоў для маёй жывёлы, а я ўжо сам у сваёй гаспадарцы завіхаюся, і з гэтага жывём і дзецям стараемся дапамагчы».*

Спадар Мікалай распавядае, што ўжо ў пенсіённым узросце ездзіў на заробкі ў Швецыю. І час, праведзены там, захаваўся ў памяці яскравымі ўражаннямі.

*«Так атрымалася, што я быў у Швецыі зімой. У той мясцовасці, куды трапіў, у гэту пару працы асабліва не было,* – згадвае Баўсюк. – *Так сталася, што неяк я папрацаваў толькі чатыры дні, і мне гэтых грошай хапіла, каб аплаціць жыллё за месяц, цэлы месяц харчавацца і купляць білеты на праезд у транспарце».*

## «Дачка плаціць крэдыт за кватэру, то магу ёй дапамагчы...»

**Наталля Давыдзік** 28 гадоў працавала урачом, атрымлівае пенсію 350 рублёў. Ёй ужо больш за 60 год, але кожную раніцу спяшаецца ў паліклініку – на працу. Адзначае: пакуль кіраўніцтва ўстановы асабліва не настойвае на яе звальненні, паколькі цякучка кадраў вялікая і ўрачоў не хапае.

*«Для мяне добра, што праца ёсць. Я ўвесь час на нагах і сярод людзей, а інакш ляжала б у хаце, і нічога ў гэтым добрага не было б,* – кажа спадарыня Наталля. – *Ды і прыбаўка да пенсіі вельмі дарэчы. У мяне двое ўнукаў, дачка плаціць крэдыт за кватэру, вось і магу ім дапамагчы».*

## На беларускую пенсію немагчыма пражыць

**Валерый Румянаў** мае 37 гадоў стажу, прычым 15 з іх, за савецкім часам, працаваў на Поўначы. Быў будаўніком, мантажнікам, шафёрам. Пенсія – 435 рублёў. Але, паводле прызнання спадара Валерыя, дагэтуль вымушаны працаваць – круціць баранку. Ягоныя даходы дзякуючы гэтаму амаль падвойваюцца.

*«Справа ў тым, што на беларускую пенсію ў горадзе пражыць немагчыма,* – перакананы Румянаў. – *Мая жонка таксама на пенсіі працуе, і мы зусім не шыкуем. Нават летам падчас адпачынку нікуды на мора выбрацца не можам, бо з такімі цэнамі, як у нас, нічога не адкладзеш. Асабліва шмат грошай даводзіцца траціць на лекі. Дык яшчэ добра, што Польшча побач, то там лекі набываем па коштах, у два разы таннейшых, чым у нас».*

Спадар Валерый кажа, што ў хуткім часе вымушаны будзе пакінуць працу, паколькі становіцца вельмі цяжка. Вось тады, маўляў, рэмень давядзецца канкрэтна зацягнуць.

*Нагадаем, што ў адпаведнасці з новым пенсіённым заканадаўствам жанчыны ў Беларусі сёлета пачынаюць атрымліваць пенсію з 56 гадоў, а мужчыны – з 61 года. Паводле афіцыйных дадзеных, сярэдняя працягласць жыцця зараз у Беларусі складае 73 з паловай гады. Пры гэтым беларускія жанчыны жывуць на 10 гадоў больш, чым мужчыны. Дарэчы, у Гродне зараз налічваецца 14 доўгажыхароў, якім больш за 100 гадоў.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**
*Гродна.*

НОВЫЯ ІМЁНЫ

# «Вучуся ў Кіеве, працую ў Беларусі...»

*Новы старшыня маладзёжнага крыла Партыі БНФ **Дзяніс МАНДЗІК** распавёў «Народнай Волі» пра тое, чаму ён вырашыў заняцца палітыкай.*

Днямі ў маладзёжнай арганізацыі Партыі БНФ адбылася чарговая змена кіраўніцтва. Новым кіраўніком абраны 20-гадовы **Дзяніс Мандзік** з Барысава. А вось яго папярэдніца **Ганна Смілевіч** на гэтай пасадзе не адпрацавала і года. Праўда, за гэты час яе паспелі адлічыць з факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Са слоў Ганны, быццам бы па палітычных матывах, хаця ў выкладчыкаў з гэтай нагоды было іншае меркаванне…

– Пра тое, чаму Ганна Смілевіч прыняла рашэнне пакінуць пасаду старшыні, лепш у яе запытацца, – кажа Дзяніс Мандзік. – Хутчэй за ўсё, у яе з'явіліся новыя планы. Ведаю, што ў гэтым годзе Ганна паступіла ў Нацыянальны авіяцыйны ўніверсітэт Украіны. Калі не памыляюся, то ўжо 29 кастрычніка ў яе будзе першая ўстаноўчая сесія.


Ганна Смілевіч і Дзяніс Мандзік.

**– Вы ж таксама ў гэтым універсітэце вучыцеся?**

– Так, на другім курсе па спецыяльнасці «Міжнародная эканоміка». Навучанне завочнае на платным аддзяленні. Дарэчы, паступіць было не вельмі складана. Так што вучуся ў Кіеве, працую ў Беларусі.

**– У вас з Ганнай Смілевіч падобны лёс. Абодва былі выключаны з ВНУ ў Беларусі, паступілі ў адзін і той жа ўніверсітэт у Кіеве. Кажуць, што раней у вас быў раман…**

– Раман – гэта ў мінулым, а што тычыцца майго адлічэння… Асабіста я лічу, што мяне адлічылі пасля першага курса Беларускага тэхналагічнага ўніверсітэта несправядліва. Гісторыя пачалася з таго, што я адмовіўся плаціць унёскі ў БРСМ. Далей былі пагрозы, што не дадуць інтэрнат не толькі мне, але і маім аднагрупнікам, на мяне аказваўся пэўны ціск. У рэшце рэшт, калі я звярнуўся за дапамогай у СМІ, мяне наогул не дапусцілі да наступнай сесіі. Быццам бы не здаў залік, хаця ў той сітуацыі былі такія абставіны, што я і не мог гэтага зрабіць.

**– Як блізкія ставяцца да вашага захаплення палітыкай?**

– Маці ставіцца даволі нейтральна і нават падтрымлівае мяне, хаця, натуральна, у яе ёсць нейкае хваляванне па прынцыпе «каб чаго не здарылася». А вось з бацькам перыядычна ўзнікалі гарачыя дыскусіі з нагоды маёй дзейнасці.

**– Дзе працуюць бацькі?**

– Маці – галоўны бухгалтар, бацька – інжынер на дзяржаўным прадпрыемстве.

**– Адкуль у вас цікавасць да палітыкі?**

– Да маладзёжнага крыла Партыі БНФ я далучыўся ў 2015 годзе. Хацелася проста рабіць нейкія справы на карысць сваёй краіны, але з кожным днём усё больш і больш цікавіўся і палітычнымі справамі. Натуральна, не сядзеў склаўшы рукі. У 2016 годзе ўдзельнічаў у кампаніі за рэабілітацыю Ларысы Геніюш, выступаў за льготны праезд для студэнтаў, збіраў подпісы ў абарону беларускай мовы. Таксама браў даволі актыўны ўдзел у абароне Курапатаў, за што мяне і штрафавалі.

**– Колькі сябраў зараз налічвае маладзёжная суполка Партыі БНФ?**

– Усяго – каля тысячы чалавек, з іх 400 – найбольш актыўных.

**– Нешта будзеце змяняць у дзейнасці арганізацыі?**

– У мяне, безумоўна, ёсць свае ідэі, але найперш хачу, каб моладзь не толькі абмяркоўвала ў інтэрнэце, але і больш праяўляла вулічную актыўнасць. Мы ўсё-такі палітычная арганізацыя, а некаторыя падчас пра гэта забываюць.

Трэба таксама больш самастойнасці даваць рэгіянальным структурам, каб там таксама з'яўляліся свае лідары. Канкурэнцыя – гэта проста цудоўна. Рухавік прагрэсу…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЛІЧБА ДНЯ

# 1,136 млрд долараў

Такой была выручка ад рэалізацыі прадукцыі за 9 месяцаў 2018 года на ААТ «БМЗ – кіруючая кампанія холдынга «БМК». І гэта амаль гадавы вынік кампаніі за ўвесь 2017 год, калі выручка гіганта беларускай металургіі была на ўзроўні 1,2 млрд долараў, што на 300 млн долараў больш, чым у 2016 годзе.

У цяперашні час у ААТ «БМЗ – кіруючая кампанія холдынга «БМК» працуе больш за 11.800 супрацоўнікаў, што амаль на 200 больш, чым у верасні 2017 года.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Друг, товарищ и волк

Ректор первого белорусскоязычного университета имени Нила Гилевича Олег Трусов дал большое интервью *Радыё Свабода*, в котором рассказал, как идут дела у его проекта. Университет зарегистрирован, и, как только лицензия будет получена, в 2019 году начнется учебный процесс. Правда, как отметил Олег Анатольевич, против открытия университета выступают «как сторонники русского мира, так и группировки ЕГУ».

Оставим оценку расстановки сил на совести господина ректора не состоявшегося еще университета. Остановимся на тенденции. Она у нас давняя и примечательная.

В свое время главный редактор и создатель «Белорусской деловой газеты» Петр Марцев жаловался мне:

– Как ни приеду в какой-нибудь фонд подавать заявку на создание независимой службы распространения негосударственной прессы, сначала встречают с распростертыми объятиями, а через два месяца получаю отказ. Опускают глаза в пол, говорят: «Ваш проект получил отрицательную оценку экспертов».

– Петр Павлович, так они же западники, наших проблем не понимают, не чувствуют…

– Еще как чувствуют! Экспертизу ведь наши, белорусы, делают. Им кажется, что если кто-то грант и получит, то не от западных налогоплательщиков, а их кровные деньги потратит. Тут и зависть: им-то ничего не достанется. Вот они друг друга, а заодно и нас, дерьмом и поливают. Доноры только от летящих брызг уворачиваться успевают. А в результате – десятки нужных проектов остаются нереализованными.

Действительно, не так страшен фонд, как его эксперты. Они в большинстве случаев анонимные для заявителя. Но однажды Марцеву под страшным секретом показали подпись под отрицательной экспертизой. Петр пришел в бешенство: негативный отзыв дал человек, которого он буквально привел в политику, создав под него имитационную площадку – как говорил сам Марцев, «игрушку для Запада». Теперь его творение обратилось против него да еще в критический момент, на пике борьбы с «Белорусской деловой газетой», которую вела власть.

Пришел в бешенство – но сделать уже ничего не мог.

Это не только для нашей страны характерно. В Польше остается «недостроенной», может быть, главная научная работа гуманитариев последних семидесяти лет – «Хроника жизни и творчества Адама Мицкевича». Осталось два тома, посвященные российскому периоду его жизни и путешествию по Италии и Швейцарии. Профильный академический институт подал соответствующую заявку в Министерство, но экспертиза проект отклонила. Было сказано, что методологически он устарел – хотя методология понятна: нужно сидеть в архивах, копировать документы, складывать их в хронику. И без этой кропотливой кротовьей работы, не видной читателю, историю жизни гениального поэта никак не реконструируешь. Но… Рецензировать проект дали молодым историкам, которые, вероятно, посчитали: кому он нужен, этот Мицкевич? Да еще на два тома деньги давать! Ну и…

Но там речь идет о государственных деньгах, причем деньгах в рамках одного и того же государства и государственного ведомства. А Олег Трусов – как и Петр Марцев, говорил об альтернативных финансовых потоках. И вот это уже показательно.

Трусов, как и Марцев, – человек из редкой породы деятелей. Можно было улыбаться, когда он ходил по митингам и прочим оппозиционным акциям с коробкой для сбора пожертвований, но он их реально собирал и на них реально оплачивал помещения, и оставалось еще на какие-то собственные мероприятия. И сейчас, когда он взялся за создание университета, я убежден, что Олег Анатольевич все просчитал, собрал команду единомышленников, составил план – и начал действовать. Но белорусское государство, к сожалению, все еще не слишком белорусское, потому так важны и внешние доноры – хотя бы для того, чтобы сохранить относительную независимость проекта. А здесь уже начинается конкуренция. Здесь уже белорус белорусу – друг, товарищ и волк. За грант могут и в горло вцепиться.

И добро бы, чтоб у тех, кто норовит вцепиться в горло, были собственные альтернативные проекты, на порядок лучше. Мне не слишком хочется верить в то, что «группировка ЕГУ», как выразился Трусов в интервью, действительно прибегает к нечестным формам закулисной конкуренции: их проект достаточно давно существует, донорские связи налажены, и если скандалы последних лет и сказались на репутации ЕГУ, то не столь катастрофически, чтобы опускаться до такого уровня. Но остальным ведь и вовсе нечего предъявить. Есть несколько образовательных проектов, но все они носят скорее характер проектов для получения дополнительного образования, не имеют права выдавать дипломы государственного образца и т.д. А университет имени Нила Гилевича как раз и должен восполнить эту нишу – независимого национального университета, который будет работать в Беларуси, для Беларуси и на белорусском языке.

Тут бы всем Олега Трусова поблагодарить и начать оказывать ему максимальную поддержку. Однако… Присмотритесь к тем, кто уже готов написать экспертный отзыв: некоторые из них смотрят на его детище с холодной заинтересованностью волка. Ничего не поделать: закон выживания.

СІТУАЦЫЯ

# Кінуты помнік…

*Будаўніцтва мемарыяльнага комплексу, прысвечанага героям і ахвярам Першай сусветнай вайны ў Смаргоні на Гродзеншчыне, замарожана на няпэўны час. Здаць аб'ект планавалі яшчэ ў 2014 годзе да 100-годдзя з пачатку Першай сусветнай вайны – не зрабілі. Не спраўдзіліся і іншыя абяцанні – да 100-годдзя падпісання мірнай дамовы, якую свет адзначыць у лістападзе 2018 года.*

*Чаму так адбылося?*

Адзін з аўтараў праекта, вядомы ў Беларусі скульптар **Уладзімір Церабун**, які паходзіць са Смаргоні і жыве цяпер там, паказвае мне той самы недабудаваны мемарыял на ўскрайку горада.

Месца для яго абралі невыпадковае – непасрэдна тут адбываліся баі. Горад быў цалкам зруйнаваны, а больш за 16 тысяч жыхароў па загадзе цара эвакуіравалі ў расійскі тыл, адкуль многія так і не вярнуліся.

Уладзімір Церабун згадвае, што ідэя ўзнікнення мемарыяла нарадзілася пасля таго, як з'явілася кніга пра абарону Смаргоні ў Першую сусветную вайну **Уладзіміра Лігуты**. Райвыканкам аб'явіў конкурс, у ім удзельнічала дзевяць праектаў, права займацца мемарыялам заваяваў мінскі скульптар **Анатоль Арцімовіч**. Пазней ён запрасіў да ўдзелу ў гэтай рабоце **Уладзіміра Церабуна**.


Мемарыяльны комплекс, прысвечаны героям і ахвярам Першай сусветнай вайны ў Смаргоні на Гродзеншчыне. Дзве паўкруглыя сцяны, не абліцаваныя гранітам, на якіх павінны быць прозвішчы салдат.

## Штык, на які начэплена гісторыя

Мы стаім на пачатку Алеі памяці, пад нагамі выкладзены з каменя Георгіеўскі крыж. Па абодва бакі на паўкруглых сценах назва мемарыяла на беларускай і рускай мовах: «Мемарыяльны комплекс па лініі супрацьстаяння ў Першую сусветную вайну 1915–1917 гг. у г.Смаргоні». Алея цягнецца на 410 метраў праз увесь парк.

*«І вось заўважце: адсюль алея будзе далей звужацца, звужацца, бо ў аснове кампазіцыі – штык. І на гэты штык начэплена гісторыя»*, – распавядае Уладзімір Церабун.

Далей па ходзе дзве паўкруглыя сцяны. Яны не дароблены: не абліцаваны гранітам, на іх няма прозвішчаў загінуўшых салдат. Побач са сценамі з кожнага боку ўсталявана па урне.

*«Дзве сцяны, бо ў іх закладзена ідэя прымірэння двух бакоў,* – працягвае аповед Церабун. – *На адной сцяне павінны быць нанесены прозвішчы загінуўшых салдат і афіцэраў расійскай арміі, а на другой сцяне тэкст на нямецкай мове аб тым, што на смаргонскай зямлі падчас Першай сусветнай вайны загінулі тысячы нямецкіх салдат і афіцэраў».*

Паводле задумкі аўтараў, у адной урне будзе змешчана зямля з магілак, дзе пахаваны нямецкія салдаты, у другой – зямля з магіл расійскіх салдат.

Пасярод мемарыяла ўзвышаецца капліца са звонам і георгіеўскім крыжам. Скульптар сумна заўважае, што папрасіць улады, каб дазволілі званіць у гэты звон 11 лістапада, у дзень калі споўніцца 100 гадоў з таго часу, як скончылася Першая сусветная вайна.

Далей, дзе алея зусім звужаецца, усталявана адлітая з бронзы карта баявых дзеянняў, побач з якой па крузе стаяць валуны з пазначэннем асноўных этапаў смаргонскага эпізоду вайны.

А дамінанта мемарыяла – трыадзіная скульптурная кампазіцыя «Крылаты геній салдацкай славы», «Салдаты Першай сусветнай» і «Бежанцы»: анёл, больш падобны на салдата ў апошнім падзенні; змучаныя вайной салдаты імперыі сядзяць, падціснуўшы ногі і тулячыся адзін да аднаго, на іх тварах стомленасць і трывога; напалоханыя вайной уцекачы – ад якіх нічога не залежала і якія не ведалі, што рабіць.


«Салдаты Першай сусветнай».

У самым канцы алеі, так бы мовіць, на вастрыі штыка – валун, разрэзаны на дзве часткі. На кожным кавалку тэкст паслання нашчадкам па-руску і па-нямецку: *«Любая война несет горе, разрушения и смерть, наш священный долг – помнить об этом».*

## Грошы скончыліся, недабудаваны мемарыял пачынае развальвацца

Амаль за тры гады пазіцыйнага супрацьстаяння 1915–1917 гадоў у Смаргоні і ваколіцах загінулі тысячы салдат і афіцэраў з абодвух бакоў. У гэтай вайне бралі ўдзел больш за трыццаць дзяржаў. Краіны з назвай Беларусь тады яшчэ не існавала.

Тым не менш беларускія скульптары Анатоль Арцімовіч, Уладзімір Церабун, Іван Арцімовіч і архітэктар **Аляксандр Бажыдай** хацелі данесці праз мемарыял ідэю паваеннага замірэння. Але пакуль яна не ўвасоблена, паколькі мемарыял не скончаны. А таму кідаецца ў вочы тое, што ўвекавечваецца больш толькі адзін з бакоў супрацьстаяння – Расійская імперыя, у склад якой уваходзілі тады і землі Беларусі.

Стварэнне бронзавых кампазіцый прафінансавана з бюджэту Саюзнай дзяржавы, беларускі бок забяспечвае добраўпарадкаванне, афармленне, брук, мантаж.

1 жніўня 2014 года ў мемарыяльным комплексе быў праведзены мітынг-рэквіем, прысвечаны 100-годдзю з пачатку Першай сусветнай вайны. На ім прысутнічаў старшыня Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы **Рыгор Рапота**. Працу беларускіх скульптараў ацаніў: геніяльна! Паабяцаў, што да 100-й гадавіны заканчэння Першай сусветнай мемарыяльны комплекс будзе дабудаваны, грошы знойдуцца, але гэтага не адбылося.

Намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкама **Генадзь Бычко** на маё пытанне адносна будучыні мемарыяла адказаў, што знайсці такія фінансы раёну не пад сілу. Маўляў, пісалі, звярталіся, прасілі, але пакуль ніякіх навін.


«Бежанцы».

Зварот у Адміністрацыю прэзідэнта таксама не даў ніякага плёну. А на заканчэнне работ, паводле слоў скульптара, не стае каля двух мільёнаў долараў. Дарэчы, 11 лістапада кіраўнік Беларусі запрошаны ў Францыю. У гэты дзень у Парыжы адбудуцца ўрачыстасці, прысвечаныя 100-годдзю заканчэння Першай сусветнай вайны .

Мемарыял у Смаргоні пакідае ўражанне замарожанага даўгабуду. Асабліва кідаюцца ў вочы неабліцаваныя сцены і пастаменты са скульптурамі. Дзесьці крышыцца бетон, дзесьці тырчыць электрычны кабель... Помнік пачынае развальвацца.

## Будзь праклятая ты, вайна!

Спадар Уладзімір павёз мяне на трасу Вільнюс–Мінск, уздоўж якой, паводле праекта, павінна была мясціцца другая частка комплексу. Уздоўж шашы павінен быў паўстаць бронзавы помнік «Праклён вайне» – салдат уваткнуў вінтоўку штыком у зямлю і падняў рукі ўгору, быццам крычыць: «Будзь праклятая ты, вайна!»

Планавалася, што фігуру салдата размесцяць на гранітным брустверы з назвамі 34 дзяржаў, якія бралі ўдзел у Першай сусветнай. Дарэчы, з трасы добра відаць сведак той вайны – больш за 10 бетонных дотаў, якія былі збудаваны нямецкімі салдатамі. Толькі ў Смаргонскім раёне такіх больш за 60. Большасць з іх у выдатным стане, але аўтобусы з турыстамі тут не спыняюцца. У Смаргоні я не ўбачыў ніводнай аб'явы, якая запрашала б на экскурсіі па мясцінах Першай сусветнай вайны.

## Залатая горка

Яшчэ адно месца побач з мемарыялам вельмі ўразіла – Залатая горка. Тут знаходзіліся ваенныя пазіцыі расійскіх і нямецкіх часцей. З расійскага боку засталіся акопы – мясцовыя энтузіясты гісторыі давялі іх да ладу, і яны выглядаюць, як 100 гадоў таму. А ўсяго ў 150 метрах пагорак, з якога германская артылерыя абстрэльвала ўвесь бліжэйшы тыл рускіх пазіцый. На месцы, дзе знаходзіліся нямецкія салдаты, – тры вялікія варонкі ад выбухаў. У іх цяпер растуць высокія сосны, у адной стаіць крыж.

Уладзімір Церабун распавёў гісторыю аб тым, што нямецкія салдаты, засеўшы на горцы ва ўмацаваных абарончых збудаваннях з бетону, не давалі магчымасці манеўрыраваць расійскім войскам. Расійскае камандаванне прыняло рашэнне зрабіць падкоп пад умацаванні праціўніка і яго пазіцыі. Салдаты капалі падземную траншэю, патаемна выносілі зямлю за 300–400 крокаў. У выніку пад нямецкія ўмацаванні было закладзена два вагоны выбухоўкі. Затым па немцах быў адкрыты агонь з расійскай батарэі...

Усе падзеі стогадовай даўніны тут як на далоні. Уяўляю, як цікава гэта можа быць школьнікам на ўроку гісторыі, турыстам, якія шукаюць мінулае. Але на Залатой горцы цішыня, няма нават стаянкі для транспарту, ды і дарога зусім ненаезджаная, зарослая травой.

Вельмі хочацца верыць, што знойдуцца сродкі, каб давесці да ладу памяць аб Першай сусветнай вайне, што рэклама аб новым турыстычным маршруце з'явіцца не толькі ў смаргонскіх, але і гродзенскіх і мінскіх турыстычных фірмах. Але, на жаль, не бачна падстаў для такога аптымізму.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
16 КАСТРЫЧНІКА 2018 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Хоць бычок трымаўся храбра, але ўкрала «чупакабра»

Першы намеснік старшыні Ушацкага райвыканкама (цяпер ужо былы) арганізаваў крадзеж бычка. Яму дапамагалі ветэрынарны ўрач гаспадаркі, загадчыца фермы. Пасля праверкі высветлілася, што, апрача бычка, на ферме не хапае яшчэ 70 галоў жывёлы…

Час бязрадасны наспеў,
У бычкоў патухлі вочы:
Нейкі звер у іхні хлеў
Стаў наведвацца штоночы.
Кожны раз бычка крадзе –
Толькі шоргае салома.
Як жа рады даць бядзе?
Што рабіць ім? Невядома.
І адзін бычок Мірон
Сярод іх трымаўся храбра.
– Да мяне, – хваліўся ён, –
Не паткнецца чупакабра!
Абламлю яе клыкі,
Будзе жорсткай абарона!
Зразумела, што бычкі
Насміхаліся з Мірона:
– Смела так не гавары.
Прагучаць другія словы,
Калі зверу ў кіпцюры
Пападзешся ў раз чарговы,
Калі ён цябе зграбе…
І напраўду сярод ночы
Лапы звера на сабе
Ён, Мірон, адчуў аднойчы.
Быў гатовы ўжыць бычок
Капыты свае і рожкі –
Вутнуць імі зверу ў бок,
Ды затым… сумеўся трошкі.
Перад ім – ветэрынар
І галоўная на ферме.
Ад бычка чамусьці твар
Вінавата цётка верне
І падсоўвае кармы –
Буракі, сянаж і сена.
– Не брыкайся, – кажа, – мы,
Далібог, не зробім дрэнна,
Завязём у іншы хлеў…
І бычок Мірон ад ласкі
Размарыўся, разамлеў –
Больш нямашака апаскі.
Ветурач зрабіў укол,
І ў вачах бычка Мірона
Расплылося ўсё вакол,
Пазяхнуў няшчасны сонна…
Сапраўды ў другім хляве
Ачуняў-прачнуўся потым.
Мутна, тлумна ў галаве,
Скура ўся пакрыта потам.
Са здароўем нелады,
І настрой пануры, цяжкі,
Быццам ён замест вады
Сербануў учора бражкі.
Не шавеліцца язык,
Каб хаця б лізнуць карыта…
Падышоў якісь мужык.
Выглядае самавіта,
І па вопратцы відно,
Што купаецца ў раскошы,
Што ў хляве не быў даўно.
Ён сказаў:
– Бычок харошы!
Не худы і не цяльпук…
Таямніца для Мірона,
Што яго прыбраў да рук
Вельмі важны чын раёна.
Але змог дапяць Мірон:
«Не падобны ён на сябра.
Значыць, будзе мне гамон –
Гэта ж, пэўна, чупакабра…»

* * *

На чыноў як на тузоў
Пазіралі мы заўсёды,
А выходзіць, што бычкоў
Выкрадаюць верхаводы.
Досыць ім і драбязы…
Дык раблю я вывад горкі:
Верхаводы – не тузы,
А звычайныя шасцёркі.

### Добра і дрэнна

Сказаў знаёмы адвакат:
– Выдатна гэта, несумненна,
Калі агульнага ў вас шмат!
А пры разводзе гэта дрэнна…

### Узаемасувязь

Хоць жартам – не ўсур'ёз,
Ды сведчыць завядзёнка:
Як зачасаўся нос,
Уздрыгвае пячонка…

### Адгадаць немагчыма

Калі «палова»
(Многа зім і лет
Жывём ужо
І пуд мы з'елі солі)
Пытаецца:
«Што хочаш на абед?»,
На жаль,
Я не адгадваю ніколі…

### Завядзёнка

Усім вядомая здавён
«Традыцыя» такая:
Калі мужчыну дрэнна, ён
Кабеціну шукае.
Ад гэтай явы не ўбаку
Другая завядзёнка:
Як вельмі добра мужыку,
Яго шукае жонка.

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

## Войдите в мое положение, товарищ министр…

Уважаемый главный редактор!

Я постоянная читательница Вашей газеты. Давным-давно знакомлюсь с информацией о нашей стране через «Народную Волю». Верю ей, поэтому и хочу, чтобы мое письмо было напечатано на ее страницах.

Моего сына, Павла Савицкого, призвали в Вооруженные силы Республики Беларусь 16 мая 2018 года. Я, его мать, пенсионерка, инвалид II группы по онкозаболеванию (IV стадия). Прошла 28 курсов химиотерапии и более 20 – лучевой. У меня сахарный диабет (инсулинозависима), гипертония III степени, артроз II–III степеней коленных и тазобедренных суставов, ишемическая болезнь сердца. В общем, живу на медпрепаратах. Существует постоянная угроза моей жизни.

Перед призывом сына я предоставляла документы в Оршанский военкомат, но никто из сотрудников военкомата не обратил на них внимания. Обратилась с заявлением на имя министра обороны Андрея Алексеевича Равкова по поводу досрочного увольнения из рядов ВС РБ моего сына. Ответ сразил наповал. Мне сообщили: «…у вас есть две дочери, проживающие на территории Республики Беларусь», пусть они, мол, вам и помогают. А я этого и не скрывала. Но одна дочь проживает за 90 километров от меня в сельской местности, имеет личное подсобное хозяйство и троих несовершеннолетних детей. Вторая дочь беременна, и ожидать от нее физической помощи мне не приходится, поскольку беременность протекает с осложнениями, дочь лежит на сохранении.

Я поражена таким бесчеловечным отношением к бедам простых людей. Ответ Министерства обороны явился обычной бюрократической отпиской. Никто не вник в вопрос по сути. Очень обидно мне, как матери, что со мной так не по-человечески обошлись. Считаю действия тех, кто в Министерстве обороны рассматривал мое письмо, антидемократическими и нарушающими гражданские права человека. Прошу Вас, уважаемый главный редактор, обратиться от моего имени к высшему руководству страны и оказать помощь в досрочном увольнении сына из армии. Сейчас не военное время. Есть чисто человеческий фактор. И я надеюсь, что есть еще у людей доброта в душе, человечность.

Пожалуйста, отнеситесь с пониманием к просьбе больной матери.

**С уважением –**
**Алла Ивановна САВИЦКАЯ.**
*г.п.Ореховск Оршанского района.*

АБРАКАДАБРА

## Грэюць рукі на цяжкай працы селяніна

Купіў 200 грамаў сыру пад назвай «Российский особый». Думаў, што імпартны, а калі паглядзеў на этыкетку, то зразумеў: ён выраблены на адным з прадпрыемстваў адкрытага акцыянернага таварыства «Молочный мир», зарэгістраванага ў Гродне. А расфасаваны ў Брэсце таварыствам абмежаванай адказнасці «Алігорэкс». Гэта ж трэба везці за некалькі соцень кіламетраў, каб парэзаць на кавалачкі і ўпакаваць ў абгортку з этыкеткай!

Хто толькі не нажываецца на цяжкай працы селяніна! Тая ж даярка гне спіну з ранку да позняга вечара, а яе заробак меншы, чым у тых, хто вырабляе з яе малака сыр, які возіць з аднаго абласнога цэнтра ў другі, каб расфасаваць у прыгожыя ўпакоўкі. Наколькі «Российский особый» быў бы таннейшы, калі б меншая колькасць людзей грэла на ім рукі! Дакладней – яны грэюць рукі на цяжкай працы селяніна.

**Сямён ГАЛАВАЧ.**
**Шчучынскі раён.**

ДИСКУССИЯ

## Коррупция – это не просто взяточничество



Прочитал в одном из номеров «Народной Воли» размышления Михаила Русаковича о том, почему в нашей стране не хватило четверти века, чтобы побороть коррупцию. У меня совсем другое мнение. Чтобы истребить такое зло, как коррупция, нужно прежде всего правильно определить, что это такое, установить основные причины этого явления.

На мой взгляд, коррупция – это не просто взяточничество, тут нужно смотреть глубже и шире. Коррупция – это когда вышестоящий чиновник защищает противоправные действия нижестоящих лиц, в результате чего беззаконие расцветает пышным цветом и приходится пожинать его горькие плоды не только многим гражданам, но даже президенту страны. К сожалению, у нас проблема с такой стороны не рассматривается. Заметьте, зачастую для беззакония чиновников созданы все условия.

За исполнением законов имеют право следить только правоохранительные органы. А вот те, кто эти законы принимает, то есть депутаты парламента, оказывается, отстранены от контроля. В том числе от контроля над работой самих правоохранительных органов, то есть судов, милиции, прокуратуры, КГБ, КГК, Конституционного суда. Так что в нашей стране на действия правоохранительных органов, для которых порой беззаконие является питательной средой, жаловаться некуда, а вернее будет сказать – бесполезно. В результате, как сказал как-то президент А.Г.Лукашенко, граждан ежедневно в его адрес поступают почти 200 жалоб, на многие из которых никто должным образом не реагирует. В результате бывает, что незаконное решение провинциального судьи становится выше Закона Республики Беларусь.

В стране создано все, чтобы граждане с беззаконием чиновников не боролись. Так, за жалобу на незаконные действия нотариуса у меня судья потребовал уплатить госпошлину в размере трех базовых величин. Я трижды просил разрешить провести пикетирование против беззакония, творимого чиновниками, – не разрешили, хотя Конституция дает на это право.

Так что в нашей стране созданы все условия для коррупции. Та же взятка – это оплата преступных действий чиновников. Чтобы беззаконие со стороны чиновников оперативно пресекалось, нужна более активная работа всех правоохранительных органов. А чтобы последние не дремали, действовали в строгом соответствии с законами, они должны быть подконтрольны не только одному президенту, но и парламенту.

Итак, возвращаюсь к тем мыслям, с которых начал свое письмо. Смогут ли высшие власти устранить беззаконие чиновников, на котором строится их бизнес? Если в стране решится эта проблема, то, поверьте, коррупции будет дан настоящий бой.

**Василий БРУЦКИЙ.**
*г.Барановичи.*

ПРАПАНОВА!

## У фермеры – па конкурсе



У Беларусі з'яўляецца дзяржаўнай палітыкай будаўніцтва буйных жывёлагадоўчых комплексаў. А хто падлічыў, якую шкоду яны наносяць навакольнаму асяроддзю?! Ці не таму многія цывілізаваныя краіны абыходзяцца без гіганцкіх свінарнікаў і кароўнікаў?..

Я лічу, што нам трэба больш увагі надаваць развіццю фермерскіх гаспадарак. Вядома ж, не кожны здольны займацца гэтым. Ды і дастаткова, каб за вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі ўзяліся 5–7 працэнтаў насельніцтва. Адбіраць такіх людзей трэба па конкурсе. На сям'ю неабходна выдзяляць прыкладна 20 гектараў зямлі. Зрабіць даступнымі крэдыты на набыццё тэхнікі, узвядзенне гаспадарчых пабудоў. Зрабіць так, каб тры-чатыры фермерскія гаспадаркі знаходзіліся недалёка адна ад адной – гэта важна для ўзаемадзеяння пры правядзенні, скажам, уборачнай, пасяўной. А ў выбары спецыялізацыі павінны дапамагчы навукоўцы.

Паўстае пытанне: а дзе ўзяць грошы? А там, дзе сёння ўлады бяруць для стратных гаспадарак, якія іх, лічы, ніколі не вяртаюць. А фермы, як толькі стануць на ногі, вернуць дзяржаве ўсё да капейкі.

Чым раней зямля будзе мець рэальных гаспадароў, тым хутчэй пачне багацець краіна і павялічвацца колькасць насельніцтва.

**Вячаслаў СУХАРЭБСКІ,**
**хыхар вёскі Русіны**
**Баранавіцкага раёна.**

МАЛАЯ РАДЗІМА



**Кастусь ЦВІРКА**

## У Зялёнай Дуброве

Кожнае лета (дакладней – усе цёплыя месяцы года) я жыву ў сваёй Зялёнай Дуброве, невялічкай вёсцы на самым ускрайку Старадарожскага раёна (Верхняе Палессе). Вельмі хацеў прыехаць сюды да мяне ў госці мой студэнцкі сябар Рыгор Барадулін. Але, на жаль, не змог. Абмежаваўся толькі прысвечаным мне вершам – «Ліст у Зялёную Дуброву»:

*Даўно зайздрошчу, Кастусь, табе,*
*Бо нарадзіцца ў Зялёнай Дуброве,*
*Дзе столькі шолаху ў кожным слове,*
*Дзе рэха з зязюляю ў даўняй змове,*
*Не кожнаму доліць.*
*Дасюль скрабе*
*Вясёлая зайздрасць.*
*Табе лісты*
*Ідуць зялёныя з маладосці –*
*Дуброва піша*
*І кліча ў госці*
*На сцежкі ўсцешнасці і мілосці…*

Але я тут, на бацькаўшчыне, не госць. Тут я – дома, сярод сваіх землякоў. З матыкай і пяром у руках.

Усё, што бачу і чую на гэтых «сцежках усцешнасці і мілосці», занатоўваю на паперы. Мо гэтыя занатоўкі пра сённяшнюю «глыбінку» зацікавяць і чытачоў нашай «Народнай Волі».

Звычайна я стараўся чым раней прыехаць з Мінска пасля зімы ў сваю Зялёную Дуброву. Каб не прапусціць вясну, убачыць яе прыход, прасачыць прылёт птушак.

Ды гэтым разам выбраўся сюды толькі на пачатку красавіка. У маіх высозных ігрушах-дзічках упэўнена гаспадараць, хораша высвістваючы свае мелодыі, чарнапёрыя шпакі – яны адны з першых вярнуліся з выраю і абжываюць свае хаткі,якія я збіў раней з дошчачак.

У агародчыку ўсё мокрае ад нядаўна растала снегу. Ды і само паветра напоўнена свежай вільгаццю. Так і хочацца пасля горада ўдыхаць гэтую шырокую свежасць, саму вясну.

***

На вуліцы сустрэлася суседка Віцця Шыкер. Вітаемся, абдымаемся.

– Хоць весялей цяпер будзе, – кажа. – А то не было з кім і загаварыць зімой. Акром ката.

Ёй ужо – пад 90. Дзеці і ўнукі летам да яе прыязджаюць з Мінска. Зімой жа ў вёсцы яшчэ ў трох толькі хатах апрача Віццінай свеціцца вечарамі агні.

З ёю, разважлівай, немітуслівай, павольнай у рухах, заўсёды прыемна пасядзець на вулічнай лаўцы перад хатай, пагаманіць. У яе даволі чыстая, не засмечаная русізмамі, каларытная беларуская мова, і я часта запісваю ад яе нашы рэдкія, а то і забытыя слоўкі, прыказкі, прымаўкі. Ды і ўсякія паказкі.

***

У мяне ў руках – хвацкі, з гладзенькімі зялёнымі тронкамі секатар. Каб мае дрэўцы – і пладовыя, і дэкаратыўныя – не загушчаліся, раслі стройнымі і радавалі вока, адшчыкваю ў іх усё лішняе. Скончыўшы абрэзку ў сябе, іду з секатарам на другі бок вуліцы. Там – дзіўнае дзіва: на шырокай быльняговай ялавіне, трохі збоку ад маіх вокан уваскрасае Андрэеў сад!

Я ніколі не бачыў Андрэя Цвірку, брацейніка майго дзеда Сымона. Ведаю пра яго толькі па расказах старых людзей. Гэта быў ці не самы моцны ў нас гаспадар. Меў конную малатарню, якой карысталася ўся вёска, пабудаваў сабе шыкоўны дом пад бляшаным дахам, пафарбаваным у чырвонае. А перад домам, за вуліцай, высадзіў вялікі прыгожы сад. Пра гэты сад усе расказвалі мне, як пра нейкі цуд. Чаго толькі ў ім не расло! Пры гэтым гаспадар усіх любіў частаваць сваёй садавінай.

Але за тое, што хацеў жыць па-людску, яго падчас калектывізацыі раскулачылі (як жа, багацей, міраед!) і выслалі кудысьці на пагібель. Сад перайшоў у калгас. А ў фінскую вайну, як і ўсе ў нас сады, вымерз. І вось цяпер, праз многія дзясяткі гадоў, на яго месцы пачалі раптам вылазіць парасткі ігруш і яблынь – мусіць, жылі ў зямлі іх каранькі. Я налічыў больш за дзясятак гэтых дрэўцаў.

З вялікай прыемнасцю ўзяўся я іх дагледзець. Гэта ж так будзе здарова, калі на ўсю моц разрасцецца тут, каля вуліцы, вялікі і раскошны сад! Андрэеў сад. Гэта будзе жывы помнік загубленаму нелюдзямі рупліваму зялёнадуброўскаму гаспадару-жыццялюбу Андрэю Цвірку.

***

Пры дарозе ў цемнаватай талай вадзе – жоўтае дзіва: лотаць! Ступаю ў прарызіненых ботах проста ў ваду і, хапаючыся за доўгія мясістыя сцябліны, выцягваю яркія сукветцці. Вялікі, з пахам веснавой свежасці букет стаўлю дома ў крышталёвай вазе на стол. Як пасвятлела, як пахарашэла ад лотаці ў хаце! Нібы прынёс сюды саму радасць. Разумею цяпер сваю маці, якая кожнай вясной ставіла ў слоіку гэтыя залацістыя кветкі на падаконнік.

*Будуць вечна сады расцвітаць,*
*Белагрудыя ластаўкі лётаць,*
*І дзявочыя ногі таптаць*
*Залатую лотаць.*

І хоць дзяўчаты наўрад ці будуць таптаць «залатую лотаць», бо па яе трэба лезці ў халодную ваду, у балота, але гэтыя ўзнёслыя радкі верша Пімена Панчанкі вельмі сугучныя майму настрою, навеянаму зіркатымі вясновымі кветкамі.

***

Ідучы вуліцай, заўважыў на двары Алу Бучацкую (з дома Акулічаў).

– Як жывецца, Ала? – пытаюся, павітаўшыся.

– Ды якам уверх, – смяецца.

Яна даўно асталявалася ў Зялёнай Дуброве разам з мужам. Ды гадоў пяць таму яго не стала. Стаўшы ўдавою, Ала ўсё роўна засталася жыць на бацькаўшчыне. Балазе палюбілі Зялёную Дуброву яе тры сыны, вельмі талковыя хлопцы. Кожную вольную хвіліну яны ляцяць з Мінска сюды, да мацеры. Хату і падворак дагледзелі – залюбавацца. Разам з дзецьмі акрыяла патроху Ала, ды і штодзённы гаспадарчы клопат не дае ёй апускаць галаву. Таму і жыццё яе ідзе тут, хоць і не заўсёды так, як хацелася б, ды ўсё роўна «якам уверх».

***

За плотам на былой сядзібе майго дзеда Сымона разросся густы сліўнік з бэзам і акацыямі. Гэты праўдзівы зялёны гаёк аблюбавалі салаўі. Яны аж заходзяцца там у сваіх спевах. Я засынаю і сплю пад гэтыя трэлі. Дзіўна: хоць ад іх часцяком аж у вушах закладае, але гэта зусім не шкодзіць майму сну. Наадварот, закалыханы дзівоснымі руладамі, я сплю тут як нідзе лепш. Салаўі як бы навейваюць маёй галаве: спі спакойна, ты – дома, сярод пракаветнай прыроды.

***

«Худ-худ-худ, худ-худ-худ», – каторы дзень нясецца з ваколіцы. Гэта лётае, мільгаючы сваімі пярэстымі крылцамі і чубком-веерам, няўпынны ўдод: прарочыць холад. І праўда: пасля цёплых дзён з поўначы нагнала раптоўна холаду. Ага, гэта ж зацвіла чаромха! Пайшлі, як кажуць у народзе, юраўскія кругі, якія паэты назвалі чаромхавымі халадамі.

*Па ярах сумётамі – белая чаромха.*
*Салаўі шалёныя б'юць на ўсе лады.*
*Заінела пер'е майскага чароту:*
*Выветрыўшы неба, ходзяць халады.*

Як жа дакладна перадаў гэтую пару Анатоль Вялюгін!

***

Ушэсце. Весела свеціць сонца. Міма майго двара праходзяць з букетамі агняных цюльпанаў, з жоўта-белымі нарцысамі і з шышкастым бэзам канцавыя жанчыны. Ага – на могілкі. Такі ў нас звычай: не толькі на Радаўніцу, але і кожным значным святам наведацца да сваіх родных, што там спачываюць, яшчэ раз пастаяць каля іх вечнага прытулку, пагаманіць з імі душою.

***

Папалудні захмарыла, прашумеў дождж. Часты, спорны. На вуліцы заблішчалі лужыны. Калі хмара адплыла далей, на ўсход, чую: зашлэпала сваімі прасторнымі галёшамі Віцця.

– Ці не лішні ўжо гэты дождж? – пытаюся, падышоўшы.

– Чаму ж ён лішні? Не лішні! Некалі казалі: калі на Ушэсце дождж, трэба прыбіваць у засеку яшчэ адну дошку.

***

На вулічнай лавачцы – дзве жанчыны. Абедзвюм – за 80. Падсаджваюся да іх і я.

Гаворка зайшла пра тэлевізар.

– Я дак і не гляджу «Последнія ізвесція», – кажа адна. – Калі ні ўключыш – раве Лукашэнка.

– Як гэта «раве»? – пярэчыць другая. – Складна, талкова гаворыць.

– Гаварыць – не рабіць.

– Ды і робіць. Пра нас, старых, дбае. Пенсію дае.

– А многа ты купіш за тую пенсію? Каб не мой агарод ды не куры, ногі працягнула б па той пенсіі.

– Не грашы, дзеўка. Цяпер усе адзеты, абуты. Помніш, як мы некалі рады былі, калі даставалі дзе якога паркалю на сукенку…

Абапіраючыся на палку і моцна кульгаючы, падыходзіць да нас адзін пажылы чалавек, інвалід вайны (прыехаў аднекуль да сваёй унучкі), таксама падсаджваецца на лаўку. Прыслухаўшыся, пра што гаворка, прыстаўляе і свой грош:

– А я за яго, Лукашэнку. Свой чалавек. Усё робіць для нас. Я пры ім хоць хлеба ўволю паеў.

Такія от вясковыя палітыкі.

*(Працяг занатовак з малой радзімы Кастуся Цвіркі ў наступным нумары.)*

РЕГИСТРАТУРА

## Белорусское здравоохранение эффективнее американского

Агентство Bloomberg опубликовало рейтинг эффективности национальных систем здравоохранения. В нем в том числе учитывали ожидаемую продолжительность жизни и расходы на здравоохранение на душу населения. Индекс эффективности здравоохранения высчитывается для стран, в которых средняя продолжительность жизни по меньшей мере 70 лет, ВВП на душу населения превышает 5000 долларов США и население составляет как минимум пять миллионов человек.

Беларусь из 56 стран заняла 49-е место, по прошлым данным наша страна была на 48-й позиции. Ожидаемая продолжительность жизни у нас, согласно рейтингу, была 73,6 года.

Лидером рейтинга, как и раньше, стал Гонконг. На втором месте традиционно Сингапур, а на третьем – Испания. Казахстан на 44-м месте, раньше он был на 45-м.

Свои позиции улучшила Россия. Ранее она была на 55-м месте, а сейчас на 53-м. Ожидаемая продолжительность жизни в России – 71,2 года. Из постсоветского пространства в рейтинг вошли только Беларусь, Россия, Казахстан и Азербайджан.

У США 54-е место, и это хуже, чем раньше, на четыре позиции. На последнем, 56-м, месте рейтинга – Болгария.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# Худший результат с 1950 года

*Главный партнер по федеральной коалиции канцлера Меркель Христианско-социальный союз потерял абсолютное большинство в баварском парламенте. Такое случилось впервые за более чем 60 лет*

Вторыми к финишу пришли «зеленые», в ландтаг впервые прошла ультраправая «Альтернатива для Германии» («АиГ»), занимающая резко отрицательную позицию в отношении мигрантов.

Лидер ХСС Хорт Зеерхофер, занимающий пост главы МВД Германии, заявил: *«Для нас в ХСС это печальный день. Но, с другой стороны, у нас все равно имеется полученный от избирателей мандат на создание правительства Баварии, мы принимаем эту ответственность»*.

Партнеры Меркель из СДПГ, принадлежащие к левому центру, оказались на пятом месте. Они растеряли примерно половину избирателей, получили менее 10%.

Партия «зеленых» торжествует. Они



увеличили вдвое количество своих сторонников, с 18% голосов став второй по количеству мандатов партией в ландтаге.

«Альтернативе для Германии» удалось отобрать немало голосов у ХСС.

По мнению сопредседателя партии «АиГ» Алис Вайдель, «нет больше никакой «большой» коалиции в Берлине, есть «маленькая» коалиция, которая не отражает волю значительного количества избирателей, так что путь к новому голосованию открыт».

Следующие выборы – в земле Гессен – должны состояться через две недели, и это станет еще одной проверкой на прочность той политической конструкции, которая была создана в Берлине.

НУ И НУ!

## Две бутылки вина за 1 млн долларов




На аукционе Sotheby's в Нью-Йорке бутылка Romanée Conti 1945 года продана за сумму в 558 тыс. долларов, еще одна ушла за 496 тысяч. Они побили рекорд цены за одну бутылку вина любого размера.

Вино было изготовлено в Бургундии из винограда урожая 1945 года. В мае 2007 года на аукционе Christie's бутылка этого же вина ушла с молотка за более чем 110 тыс. долларов. Высокую стоимость напитка обуславливает в частности тот факт, что оно было изготовлено из винограда, который еще не был привит от филлоксеры. Вскоре почти все виноградники в Бургундии были уничтожены этим вредителем.

Всего было изготовлено не более 600 бутылок вина. Точное число бутылок, дошедших до наших дней, не известно.

Позже на аукционе в Нью-Йорке бутылку виски шотландского бренда The Macallan урожая 1926 года продали за 843,2 тыс. долларов. Отмечается, что это цена стала самой высокой в истории Sotheby's в категории спиртных напитков, а также в Северной Америке. Этикетку бутылки разработал британский художник Питер Блейк, создавший обложку альбома группы The Beatles «Yellow Submarine».

В мае на аукционе в Гонконге бутылку виски The Macallan урожая 1926 года продали за 1,1 млн долларов. Всего было выпущено 12 подобных бутылок. Виски в них разлили в 1986 году после 60 лет выдержки в дубовой бочке. В августе в Шотландии выставили на продажу бутылку виски The Macallan 1926 года. Ее оценили в 1 млн долларов.

БЫВАЕТ И ТАКОЕ...

## Кошка спасла хозяйку от рака груди



Жительница английского города Ньюкасл Анджела Тиннинг рассказала, что обнаружила у себя рак груди на ранней стадии благодаря кошке. Об этом сообщает издание Metro.

Женщина призналась, что несколько лет назад ее кошка Мисси начала вести себя странно: стоило хозяйке прилечь, как она прыгала ей на грудь. «Моя кошка не слишком ласковая и довольно раздражительная, поэтому такое поведение было очень нетипичным для нее», – объяснила Тиннинг.

Она прислушалась к ощущениям, почувствовала боль в груди и обратилась к врачам. Те обнаружили в ее тканях предраковые клетки и сделали операцию по их удалению.

Два года спустя Мисси начала вести себя так же. На этот раз Тиннинг не испытывала боли, однако все же решила провести тщательное обследование. Биопсия показала, что у женщины развилась ранняя стадия рака груди, ей пришлось сделать мастэктомию – операцию по удалению молочных желез. Доктора признались, что, если бы Тиннинг не настояла на обследовании, заболевание могли бы не замечать еще несколько месяцев.

«У меня ничего не болело. Но кошка запрыгнула ко мне на грудь, и для меня это было сигналом. Если бы я подождала, опухоль сильно разрослась бы. Не будь Мисси, я уже давно могла бы умереть», – рассказала Тиннинг. Она номинировала питомца на награду «Котгерой» в соревновании «Кошка года» британской благотворительной организации Cats Protection («Защита кошек»). Также Тиннинг занимается сбором средств для женщин, страдающих раком груди.

УТОЧНЕНИЕ

**Авраам Линкольн создал Секретную службу в 1865 году**

К сожалению, в статье «Секретная служба США», опубликованной в минувшем номере, допущена опечатка – в годе создания структуры вместо 8 оказалась 9.

Приносим извинения читателям.

АКТУАЛЬНА

# «Маці-царква для праваслаўных беларусаў – Канстанцінопальская»



*11 кастрычніка Сінод Усяленскага Патрыярхату адклікаў Грамату 1686 года аб праве кіраўніка Маскоўскай Царквы пастаўляць мітрапаліта Кіеўскага. Ва Украіне ўжо рыхтуюцца да атрымання аўтакефаліі. Якія гэта можа мець наступствы для Беларусі і беларускага праваслаўя? Госць «Народнай Волі» – гісторык* ***Анатоль Сідарэвіч****.*

**– Анатоль Міхайлавіч, рашэнне Канстанцінопаля, відаць, датычыцца і нас, паколькі ў Кіеўскую мітраполію ўваходзілі Полацкая і Тураўская епархіі, ды і сам Кіеўскі мітрапаліт меў у свой час рэзідэнцыі ў Навагрудку і Вільні. Што стаіць за гэтым рашэннем Усяленскага Патрыярхату?**

– Цвёрды намер даць аўтакефалію Украінскай Царкве. Рашэнне было чаканым, бо яшчэ 1 ліпеня Усяленскі Патрыярх Варфаламей у сваёй прамове сказаў: Канстанцінопаль ніколі не перадаваў Кіеўскую мітраполію пад юрысдыкцыю Масквы, ёй было нададзена толькі права хіратоніі (узвядзення ў сан) Кіеўскага мітрапаліта. Пасля таго, як мітрапаліта духавенства і вернікі мітраполіі выбіралі на сваім саборы, Масква мусіла яго хіратанізаваць – і не больш. Але Масква парушыла ўмовы. Не былі захаваны правы Кіеўскага мітрапаліта, які меў тытул экзарха Усяленскага Пасаду. Пасля 1696 года мітрапаліта кіеўскіх ніхто не выбіраў. Іх прызначала Масква (ці Пецярбург). Было ўчынена і другое парушэнне: мітрапаліт Кіеўскі, застаючыся экзархам Канстанцінопальскага Патрыярха, павінен быў у багаслужбах засёды за яго маліцца. Але ён не маліўся.

**– Ва Украіне існуюць тры праваслаўныя царквы. Ці прызнае іх Канстанцінопальскі Патрыярх?**

– З гледзішча Канстанцінопаля і Кіеўскі Патрыярхат, і Украінская аўтакефальная Праваслаўная Царква – некананічныя. А пасля 11 кастрычніка некананічнай з'яўляецца і Украінская Праваслаўная Царква Маскоўскага Патрыярхату.

**– Дык і што Канстанцінопаль будзе з імі, некананічнымі, рабіць?**

– 11 верасня ў Кіеве аднаўлена стаўрапігія Усяленскага Патрыярха. Гэта значыць, што праваслаўныя хрысціяне Украіны пераводзяцца пад амафор (духоўную апеку) Усяленскага Патрыярха Варфаламея, які накіруе ў Кіеў свайго экзарха ці экзархаў. Пішуць, што для патрыяршага намесніка ўжо вызначана месцазнаходжанне – царква Спаса на Берастове, каля Кіева-Пячэрскай лаўры. Гэта адна з самых старых украінскіх цэркваў, збудаваная яшчэ ў XII стагоддзі.

**– Дык што будзе з Праваслаўнай Царквой ва Украіне? Хто будзе ёю кіраваць?**

– Гэта пакуль не вядома. Гэта можа быць патрыярхат, калі галава царквы – патрыярх. Гэта можа быць мітраполія, калі на чале царквы мітрапаліт. Ёсць і грэчаская мадэль – мітрапаліт і епіскапы шмат, а ёсць адзін архіепіскап, як на Кіпры ці ў Грэцыі. Патрыяршы экзарх, які прыбудзе ў Кіеў, будзе кіраваць стварэннем Царквы, давядзе гэты працэс да сабору. Але не да аб'яднаўчага сабору, бо, паўтару, усе тры царквы ва Украіне некананічныя. Будзе сабор тых епіскапаў, якія адышлі пад амафор Канстанцінопальскага Патрыярха, прызналі яго вярхоўную ўладу. І ўжо на тым саборы яны выберуць прадстаўнікоў Царквы. Які ў яго будзе тытул – патрыярх Кіеўскі і ўсёй Украіны, мітрапаліт Кіеўскі і ўсёй Украіны, архіепіскап Кіеўскі і ўсёй Украіны – на сёння не вядома.

**– Але ж кіраўнік Кіеўскага Патрыярхату Філарэт ужо сёння заяўляе: я быў і буду патрыярхам...**

– Знаўцы сцвярджаюць, што амбіцыі Філарэта перашкодзілі Украінскай Царкве атрымаць аўтакефалію яшчэ ў 2008 годзе, калі ў Кіеў на 1020-годдзе хрышчэння Русі прыязджаў Варфаламей. Чаму Філарэт перакананы, што яго выберуць на саборы? Галасаванне ж таемнае. І неабходна набраць 2/3 галасоў. Таму я са здзіўленнем гляджу на гэтага амаль 90-гадовага дзеда, які чамусьці ўпэўнены, што ён будзе патрыярхам. Калі б Канстанцінопаль зрабіў стаўку на цяперашні Кіеўскі Патрыярхат ці на цяперашнюю Украінскую Аўтакефальную Царкву, то ўвесь праваслаўны свет абвінавачваў бы яго ў патуранні раскольнікам.

**– А як узнік Маскоўскі Патрыярхат? Ці кананічным шляхам?**

– Можна прачытаць, што юрыдычна бездакорны дакумент на аўтакефалію Расійская Царква атрымала толькі ў 1892 годзе. Вядома, што ў 1588 годзе абставіны змусілі прадстаўніка Канстанцінопальскай Царквы Іерэмію ІІ паехаць у Кіеўскую мітраполію. Паколькі ад мітраполіі ў 1448 годзе адкалолася Масковія, ён пабываў спачатку ў Кіеве і Вільні, а потым паехаў у Маскву. Калі ён там адправілі пад варту, пачалі марыць голадам, пагражалі ўтапіць і прымушалі паставіць на Маскве патрыярха. Калі ён зразумеў, што жывога яго з Масквы не выпусцяць, згадзіўся. Большасць подпісаў пад Саборнай Граматай, якою Маскве давалася згода на аўтакефалію і патрыяршаства, як выявілася пазней, былі падробленыя. Непадроблены дакумент на аўтакефалію Расійская Царква атрымала ў 1892-м, праз тры стагоддзі. Але для нас больш важна, што ў прыродзе не існуе Адпускная Грамата, на падставе якой Кіеўская мітраполія, гэта значыць і ўся Беларусь, перадавалася б у падпарадкаванне Маскоўскай Царкве.

**– З атрыманнем Украінскай Царквой аўтакефаліі якія могуць быць наступствы для Беларусі?**

– Па-першае, Украіна нам дае ўрок, як трэба змагацца за сваю незалежнасць і незалежнасць сваёй царквы. Па-другое, уявіце сабе, што ва Украіне аўтакефальная царква, і там у духоўных семінарыях вучацца беларускія хлопцы. І там іх у цалкам кананічнай царкве высвячаюць на бацюшак...

**– Вядомы маскоўскі багаслоў дыякан Андрэй Кураеў заявіў нядаўна, што і праваслаўныя беларусы з гледзішча Канстанцінопаля ўжо не падлеглыя Маскве. Мы і сапраўды сталі бліжэй да аўтакефаліі?**

– А вось гэта як паглядзець. Мы добра памятаем, чым скончыліся спробы стварыць альтэрнатыўнае праваслаўе ў Беларусі, як у пасёлку Пагранічным Бераставіцкага раёна была зруйнавана амаль узведзеная царква. У Беларусі прыдушваюцца любыя парасткі аўтакефалізму. Але абставіны могуць памяняцца.

**– А хіба самі вернікі грамадой не могуць вырашыць, да якога патрыярхату мае належаць іх прыход?**

– У Беларусі – не. Як паказала практыка, такі прыход могуць разагнаць і нават храм зруйнаваць.

**– Што застаецца прыхільнікам аўтакефаліі – чакаць?**

– Чакаць. Каму прадстаўляць аўтакефалію ў Беларусі сёння? Хто яе просіць? Епіскапат, свецкая ўлада? А калі не просяць, то і не даюць. Не лішне нагадаць, што ў адпаведнасці з кананічным правам епархіі не паміраюць – яны «засынаюць». Калі, вядома, яны не ліквідаваны царкоўнай уладай. Царква вечная, а Масква спяшаецца, кіруецца надзённымі інтарэсамі. Канстанцінопаль жа, маючы за сабою больш за 1500 гадоў гісторыі, глядзіць на сітуацыю з пазіцыі вечнасці.

**– Патрыярх Кірыл неадназорава ў сваіх прамовах абвінавачваў Канстанцінопальскага Патрыярха ў раскольніцтве. Але, як выглядае, і РПЦ падлівае алею ў агонь.**

– У адным са сваіх выступленняў Кірыл ясна сфармуляваў: «Разделение, на которое мы пошли». 14 верасня Сінод РПЦ першы вырашыў не памінаць падчас службаў Усяленскага Патрыярха і забараніў сваім епіскапам служыць разам з епіскапамі Канстанцінопальскай Царквы. А Канстанцінопальская Царква ніякіх славесных выпадаў на адрас РПЦ не дапускае, аб разрывах рашэнні не прымае. Яна вельмі мудра сябе паводзіць – не кідаецца ў істэрыку. Яна маўчыць і робіць сваю справу. А ў Маскве ўжо гучаць заклікі склікаць у Маскве ўсеправаслаўны сабор, звергнуць Варфаламея і паддаць яго анафеме, адлучыць ад Царквы.

**– Але ад якой?**

– А вось гэта пытанне.

**– А ці шмат у РПЦ саюзнікаў у супрацьстаянні з Канстанцінопалем?**

– Ніводная праваслаўная царква з Канстанцінопалем не парывае. Такім чынам РПЦ можа апынуцца ў ізаляцыі, пацягнуўшы за сабой і БПЦ, якая стала закладніцай царкоўнай палітыкі Масквы.

**– Учора ў Мінску прайшоў Сінод РПЦ. Чаму Кірыл упершыню ў гісторыі праводзіў яго ў сталіцы Беларусі?**

– Каб прадэманстраваць: а Беларусь – наша. Дзе ён яшчэ можа такое прадэманстраваць? Ва Украіну ён бліжэйшым часам паехаць не зможа, у краіны Балтыі – таксама. У Сярэднюю Азію, у Азербайджан? Таму – Мінск. «Отсель грозить мы будем шведу...» І прынятыя Сінодам дакументы пра гэта сведчаць. І яшчэ звярніце ўвагу: у працы Сінода беларусы зусім не бралі ўдзелу. Беларусь там прадстаўляў мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел (Панамароў), прысланы да нас з Расіі.

**– Дык усё ж такі ў святле апошніх падзей для праваслаўных беларусаў Маці-царква – Маскоўская ці Канстанцінопальская?**

– Канстанцінопальская. Адтуль да нас прыйшла праваслаўная вера. Полацкая і Тураўская епархіі былі створаны з ласкі Канстанцінопаля. Не існавала яшчэ ніякай Масквы, а ў нас ужо былі Полацкая і Тураўская праваслаўныя епархіі. Беларускае праваслаўе больш старажытнае за Маскву. Як маладзіца царква можа называцца Маці-царквою для старэйшай? Маці-царква для праваслаўных беларусаў адназначна Канстанцінопальская, нашы продкі хрышчаны ў кіеўскай купелі.

**Міхась СКОБЛА.**


Усяленскі Патрыярх Варфаламей.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# І не зарабіў, і пакалечылі…

*Ужо больш за тыдзень працягваецца скандал з расійскімі футбалістамі, у эпіцэнтры якога ў якасці пацярпелага аказаўся былы беларускі спартсмен Віталь Салаўчук.*



Як вядома, інцыдэнт адбыўся 8 кастрычніка ў Маскве. Футбалісты піцерскага "Зеніта" і "Краснадара" **Аляксандр Какорын** і **Павел Мамаеў** адзначалі "дзесяцігоддзе мужчынскага сяброўства" і добра "адпачылі" кампаніяй у начным клубе. Кроў у маладых людзей бурліла і пасля таго, як яны выйшлі на вуліцу. Спачатку каля 8 гадзін раніцы пад раздачу трапіў 33-гадовы **Віталь Салаўчук** з Беларусі – вадзіцель вядучай праграмы "Доброе утро" на Першым канале **Вольгі Ушаковай**.

У выніку Віталя збілі, ён шпіталізаваны з чэрапна-мазгавой траўмай у аддзяленне неўратраўматалогіі бальніцы імя Боткіна. Какорын і Мамаеў арыштаваны і правядуць бліжэйшыя два месяцы ў следчым ізалятары.

Карэспандэнт "Народнай Волі" звязаўся з маці Віталя Салаўчука, які да гэтага часу знаходзіцца ў маскоўскай бальніцы, але жанчына зараз у такім стане, што тактычна адмовілася ад інтэрв'ю. Маўляў, не да гэтага. Сама яна працуе ў Маларыце медсястрой, родная сястра Віталя таксама звязана з медыцынай.

– У мінулыя выхадныя Раіса Іванаўна паехала ў Маскву, каб знаходзіцца побач з сынам, – распавёў мне чалавек, які добра ведае сям'ю Салаўчукоў. – Будзе знаходзіцца там столькі, колькі спатрэбіцца. Урачы кажуць, што праблем у Віталя са здароўем шмат, але, дзякуй Богу, што няма горшых наступстваў і што наогул застаўся жывы. Ён у бальніцы не адзін, яго не пакідаюць, таму тэлефануюць блізкім у Беларусь і распавядаюць пра стан здароўя. Цяжка сказаць, колькі яшчэ яму давядзецца быць у бальніцы.

**– Кажуць, што Віталь Салаўчук – былы спартсмен…**

– Так, у школе ў Маларыце ён з чацвёртага ці пятага класа займаўся гандболам, клас лічыўся спартыўным. Трэнер быў вельмі добры, ён затым пайшоў на павышэнне ў вобласць. Віталь нават затым некалькі сезонаў правёў у брэсцкім гандбольным БГК імя Мяшкова. Былі перспектывы ў спорце, але хлопец атрымаў сур'ёзную траўму. "Паляцелі" мяніскі, у Мінску давялося рабіць аперацыю. І са спортам пасля гэтага развітаўся.

**– А як патрапіў у Маскву?**

– Зарабляць жа грошы на жыццё трэба было, таму пайшоў працаваць таксістам у Мінску. Затым ад знаёмых паступіла прапанова пераехаць у Маскву, а ўжо там прапанавалі неблагі варыянт з працаўладкаваннем – быць вадзіцелем вядучай Першага тэлеканала. Відаць, працы было шмат, таму што дадому прыязджаў не так і часта, і пра яго жыццё ў расійскай сталіцы практычна нічога не вядома. Віталь вельмі добры чалавек, але ж бачыце, як усё атрымалася… Спадзяёмся, што гэтыя дэгенераты ад футбола атрымаюць сваё па поўнай праграме. Хаця многія ў гэта не надта і вераць…

**Алесь СІВЫ.**

МАЗАІКА

## Мінск збярэ лепшых шахматыстаў

*Каля 5 тысяч удзельнікаў прыедуць на 45-ю Сусветную шахматную алімпіяду, якая пройдзе ў Мінску ў 2022 годзе.*

Як паведаміла старшыня Беларускай федэрацыі шахмат Анастасія Сарокіна, не выключана, што ў беларускую сталіцу завітаюць шахматысты з 200 дзяржаў і па колькасці ўдзельнікаў мы нават наблізімся да 5 тысяч.

Пляцоўкай шахматнай алімпіяды стане канькабежны стадыён спарткомплексу «Мінск-Арэна». Беларусь як краіна – арганізатар форуму зможа выставіць па 3 каманды ў кожнай з дысцыплін – мужчынскай і жаночай.

## Стадыён вышэйшай якасці

*Беларуская федэрацыя футбола атрымала паведамленне аб прысваенні стадыёну "Дынама" максімальнай катэгорыі ў адпаведнасці з рэгламентам УЕФА па інфраструктуры.*

Гэта дае магчымасць праводзіць матчы Лігі нацый, кваліфікацыі чэмпіянатаў свету і Еўропы з удзелам нацыянальных зборных, а таксама паядынкі групавых стадый і плэй-оф Лігі чэмпіёнаў і Лігі Еўропы УЕФА. Арэна была афіцыйна адкрыта пасля рэканструкцыі 21 чэрвеня.

## Наша будучыня

*Дзюдаіст Арцём Коласаў заваяваў другі залаты медаль Юнацкіх алімпійскіх гульняў у Буэнас-Айрэсе.*



У камандным турніры таленавіты беларускі атлет у складзе дружыны Bejing заняў першае месца. У турніры бралі ўдзел юнакі і дзяўчаты розных вагавых катэгорый з розных краін.

Алімпійскія гульні прадоўжацца ў сталіцы Аргенціны да 18 кастрычніка.

ХАКЕЙ

# На дне турнірнай табліцы

*Хакейнае мінскае "Дынама" прайграла ў чэмпіянаце КХЛ шосты раз запар.*



У мінулую нядзелю больш за 10 тысяч балельшчыкаў, якія прыйшлі на "Мінск-Арэну", сталі сведкамі чарговай паразы "Зуброў". Гэтым разам яны прайгралі чарапавецкай "Северстали" і, такім чынам, працягваюць займаць апошні радок у турнірнай табліцы ў сваёй канферэнцыі.

"Дынама" паўтарыла свой жа мінулагодні антырэкорд, калі выдала серыю з шасці паражэнняў. І, дарэчы, тады шосты матч мінская каманда па нейкім дзіўным супадзенні таксама прайграла "Северстали".

Калі ўжо казаць пра статыстыку, то апошні матч быў для "Дынама" юбілейным – 600-м у Кантынентальнай хакейнай лізе. Для "Зуброў" гэта ўжо адзінаццаты сезон, за ўвесь час каманда 264 разы перамагла і 346 разоў прайграла.

Што датычыцца сённяшняга выступлення каманды, то пакуль што карціна атрымліваецца сумная. Як вядома, пасля вылету ў гэтым годзе зборнай Беларусі па хакеі з элітнага дывізіёна кіраўніцтва федэрацыі заявіла, што галоўны трэнер "Дынама" Гордзі Дуаер не ўлічвае інтарэсаў нацыянальнай каманды. Маўляў, мала часу дае на хакейнай пляцоўцы беларускім хакеістам.

Зараз усё змянілася – зрабілі ўхіл на тое, што "Дынама" павінна стаць базавым клубам для зборнай. Вынікі эксперымента мы бачым – дно турнірнай табліцы. Пры гэтым, паводле слоў старшыні назіральнай рады "Зуброў" Ігара Шуневіча, трэнеру выдадзены карт-бланш, за апошняе месца ў турнірнай табліцы яго ніхто змяняць не збіраецца.

Адзінае, каго шкада ў гэтай сітуацыі, дык гэта балельшчыкаў. У лепшыя часы "Мінск-Арэна" была запоўнена пад завязку (прыходзіла па 15 тысяч заўзятараў), але зараз і 9–10 тысяч гледачоў – гэта даволі шмат пры той гульні, што дэманструе каманда. Значыць, вераць і любяць "Дынама"! І тым больш прыкра, што апошні раз "Зубры" перамаглі аж 28 верасня. Ды і былі мацнейшыя за аўтсайдара іншай канферэнцыі – навасібірскую "Сибирь".

Наступная гульня зноў дамашняя – сёння "Зубры" гуляюць з маскоўскім "Дынама". Чакаем новы антырэкорд альбо каманда страпянецца?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЭНІС

# «Турсунаў знайшоў пугу для Арыны Сабаленка…»

*Беларуская тэнісістка не патрапіла на Выніковы турнір года.*

Выступленне **Арыны Сабаленка** ў Кітаі было даволі супярэчлівым. З аднаго боку, у прыгожым стылі яна выйграла турнір у Ухані і на некалькі соцень тысяч долараў палепшыла сваё фінансавае становішча, а вось у Цяньцзіне нечакана саступіла ў дзвюх партыях швейцарцы **Цімеа Бачынскі**, якая займала 329-е месца ў сусветным рэйтынгу.

Дарэчы, учора Арына з 11-га месца з'ехала на 15-е, і, такім чынам, стала канчаткова вядома, што на Выніковы турнір, дзе будуць выступаць лепшыя тэнісісткі свету, яна не трапляе.

Тым часам **Дзмітрый Турсунаў**, расійскі настаўнік Арыны Сабаленка, можа прэтэндаваць на званне "Трэнер года" за той прарыў, што здзейсніла яго вучаніца. Турсунаў знаходзіць для тэнісісткі патрэбныя словы кшталту "закрой свой рот і гуляй".



*"Я гляджу на сваю працу крыху з пазіцыі іграка,* – кажа **Дзмітрый Турсунаў**. *– З пазіцыі – якім я хацеў бы бачыць свайго трэнера. Бо стасункі "трэнер–ігрок" – гэта такі сімбіёз, у якім патрэбна шмат прыстасоўвацца і быць адкрытым для новага. Часам трэба прыкусіць язык і пацярпець, таму што здараюцца дні, калі Арына ўсё ўспрымае, а часам яе галава забіта іншым і слухаць яна нічога не хоча. У такія моманты яе трэба апусціць і даць наляцець мезенцам на вугал ложка. Каб яна ўсё зразумела сама і сказала: я раблю не тое".*

*"Супрацоўніцтва Арыны Сабаленка і Дзмітрыя Турсунава – гэта ўдачная знаходка для абаіх,* – распавёў "Народнай Волі" адзін з трэнераў па тэнісе, які папрасіў на афішаваць яго імя. *– У першую чаргу таму, што яны падыходзяць адзін аднаму па характары і адзін аднаго дапаўняюць. Раней Сабаленка, шчыра кажучы, не ўключала мазгі і працавала на сілу, якой у Арыны воз і маленькі вазок. Заплюшчвала вочы і проста лупіла з усёй сілы мяч у корт. Трапляла – зарабляла ачко, не – значыць, не. І ніхто гэтага эмацыянальнага і ў пэўным сэнсе агрэсіўнага чалавека асабліва не мог "зацугляць". А Турсунаў знайшоў пугу для Арыны Сабаленка. Без пугі яна не будзе выйграваць".*

Паводле слоў нашага суразмоўцы, апошні пройгрыш Сабаленка сведчыць пра тое, што спартсменка вельмі стамілася і не вытрымлівае зададзены тэмп.

*"Ёй трэба не "перакарміць" сябе,* – дадае трэнер. *– Няхай крыху спыніцца і адпачне, каб набрацца сіл і ў новым сезоне пачаць далейшае узыходжанне. Арыне толькі 20 гадоў, у яе пры правільным падыходзе да справы гучныя перамогі яшчэ наперадзе. Можа быць, да звання "Першая ракетка свету" Сабаленка так і не дацягнецца, але ў пяцёрку лепшых увайсці ёй абсалютна пад сілу…"*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

КРЫЖАВАНКА

# Адна ў чалавека родная маці

**Па гарызанталі:** 3."Ой, хацела ж мяне маці//За Рыгора замуж даці.//А ў Рыгора многа гора –//… скажуць, што я хвора" (прыпеўка). 9.Працяглыя бурныя воплескі. 11."Ты пагладзь мяне, мая …,// ласкава, ціхенька, хоць у сне" – з чуллівага верша Л.Геніюш "Маці". 12."Сынок і маці – зерне і … .//Сынок і маці – мудрая ікона" – з верша Я.Янішчыц "Сынок і маці". 13.Маці і … – ружа і цюльпан (узбекская прык.). 14.Насякомае. 15."Ой, мамачка, рада буду://Са спадніцы зраблю буду,//А з паперы зраблю дзверы,//Каб хадзілі …" (прыпеўка). 16.Не пакідай бацьку і маці на старасці год, і … цябе не пакіне (прык.). 19."А ў гародзе боб паламаўся,//За дзеўкамі … ганяўся" (прыпеўка). 20.Маці з хаты – … ў хату (прык.). 23.Воклiч з пераможнай інтанацыяй. 24.Куды …, туды і дзіцятка (прык.). 28.Дзень – бацька, а … – маці (прык.). 29.Маці корміць дзяцей, як … людзей (прык.). 32."Ой, мамачка, далібог,// Мяне любяць чатырох://Любіць Ясь, любіць …,//Любіць дзядзька і Міхась" (прыпеўка). 33.Чароўнасць, прыгажосць (разм.). 34.Чаранок з пупышкамі для пасадкі. 35.Дзіравы … маці лепш, чым залаты палац родзічаў (прык.).

**Па вертыкалі:** 1. … бацькі, як гара, – высокая, любоў маці, як мора, – глыбокая (японская прык.). 2."Ты прыйдзі, дарагі мой …,//Паглядзі, як мне цяжка жывецца" – з верша А.Салаўя "Маці сына чакае з вайны". 4.Падонкі канаплянага масла (разм.). 5."На купалле, на святое//Рві, матуля, … тое" – з верша Я.Купалы "На купалле". 6.Паэт і музыкант, выканаўца ўласных песень. 7."… маці – увасабленне пяшчоты" (В.Гюго). 8.Ласкавае … дзвюх матак ссе (прык.). 10."А ў небе хмарка – …//Мамінай хусцінкай праплывае" – з верша Ст.Валодзькі "Маміна хусцінка". 16. …-вугі – стыль джазавай музыкі. 17."Падай, мамачка, пілу,//Я рабіначку спілю.//На рабіне жоўты ліст,//Мяне кінуў …" (прыпеўка). 18.У кастрычніку і … з дрывамі, і мужык з лапцямі (прык.). 21.Адна ў чалавека родная маці, адна ў яго і … (прык.). 22."А я ў мамачкі … была,//Як вішанька ў садочку цвіла" (прыпеўка). 25."Чаму тады не прыйшоў,//Як я цябе прасіла?//… свінку закалоў,// Мамка вушкі зварыла" (прыпеўка). 26.Матчына … нормы не ведае (прык.). 27."Ты – мой шлях круты,//Ты – мой боль святы,//Беларусь мая,//Мой …" – з верша Л.Геніюш "Маці мая сялянская". 30."Цягні мачанку, маці, з печы!//За стол, …, за стол, старэчы!" – з паэмы Я.Коласа "Новая зямля". 31.Спартыўнае судна.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*



АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ

**Па гарызанталі:** 3.Людзі. 9.Авацыя. 11.Матуля. 12.Ралля. 13.Дзіця. 14.Аса. 15.Кавалеры. 16.Бот. 19.Янка. 20.Гора. 23.Ага. 24.Матулька. 28.Ноч. 29.Зямля. 32.Стась. 33.Міната. 34.Расток. 35.Шалаш.

**Па вертыкалі:** 1.Дабрата. 2.Сынок. 4 Юрага. 5.Зелле. 6.Бард. 7.Рукі. 8.Цялятка. 10.Аблачынка. 16.Бугі. 17.Гарманіст. 18.Хата. 21.Радзіма. 22.Дачушка. 25.Татка. 26.Ласка. 27.Алтар. 30.Малы. 31.Яхта.

ШАХМАТЫ

## Прапануем рашыць



Наступная задача расійскага кампазітара Валерыя Шаньшына сёлета атрымала чацвёрты прыз на беларускім конкурсе.

**Белыя:** Кра2, Фе6, Лg7, Cf6, Kd6, Ke5, п. h2 (7).

**Чорныя:** Крf4, Ce3, Ch7, Kd4, Kg6, пп. d5, h4, h5 (8).

**Мат у 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Шахматныя алімпійцы

У Батумі (Грузія) завяршылася сусветная шахматная Алімпіяда, у якой бралі ўдзел і беларускія зборныя. За мужчынскую каманду гулялі гросмайстры ***Уладзіслаў Кавалёў***, ***Сяргей Жыгалка***, ***Аляксей Аляксандраў***, ***Кірыл Ступак*** і ***Аляксей Фёдараў***, за жаночую выступалі ***Вольга Бадэлька***, ***Ланіта Сцяцко***, ***Наталля Кусянкова***, ***Яна Ільючык*** і ***Марыя Калядзіч***. Падрабязней прааналізуем вынікі спаборніцтва ў наступным выпуску.

## Знітаваныя с Беларуссю

Дарэчы, гісторыя шахмат ведае алімпійскіх чэмпіёнаў, чые біяграфіі звязаны з Беларуссю. Так, ***Ісаак Баляслаўскі*** (1919–1977), які нарадзіўся ва Украіне, з 1950-х гадоў жыў у Мінску. Двойчы сярэбраны і бронзавы прызёр чэмпіянатаў СССР, трохразовы чэмпіён Украінскай ССР, чэмпіён РСФСР, двухразовы чэмпіён БССР. Найвышэйшы спартыўны вынік паказаў у 1950 годзе, калі падзяліў 1–2-е месцы ў турніры прэтэндэнтаў з Давідам Бранштэйнам, але саступіў у дадатковым паядынку і страціў шанец згуляць матч на першынство свету з М.Бацвіннікам. Баляслаўскі – алімпійскі чэмпіён 1952 года ў складзе зборнай СССР. Вось адна з партый той Алімпіяды, якая праходзіла ў Хельсінкі.

***Ісаак Баляслаўскі – Артур Бісгаер***

1.d4 d5 2.c4 c6 3.Kf3 Kf6 4.Kc3 e6 5.Фb3 Kbd7 6.g3 Ce7 7.Cg2 0-0 8.0-0 a6 9.Cf4 b5 10.cd cd 11.Лac1 Kh5 12.K:d5 K:f4 13.K:e7+ Ф:e7 14.gf Cb7 15.Лc7 Cd5 16.Фc2 Фd8 17.Kg5 Kf6 18.C:d5 Ф:d5 19.e4 Ф:d4 20.Лd1 Фa4 21.b3 Фb4 22.a3 Ф:a3 23.e5 h6 24.K:e6 Ke8 25.K:f8 K:c7 26.Kd7 Ke6 27.f5 Kf8 28.Фc3 Фa2 29.Фf3 Лe8 30 Kf6+ gf 31.Фg3+ Крh8 32.ef Kg6 33.fg fg 34.Фc7 Лg8 35.h3 Фb2 36.Лd7 Фb1+ 37.Крh2 g5 38.Фe5 Лf8 39.Фe7 Лg8 40.f7, 1:0.

Ужо згаданы намі ***Давід Бранштэйн*** (1924–2006), ураджэнец Украіны, свой зямны шлях скончыў у Мінску. Віцэ-чэмпіён свету 1951 года, двухразовы чэмпіён СССР, чатырохразовы алімпійскі чэмпіён (1952–1958). Наступная партыя згуляна таксама ў Хельсінкі ў 1952 годзе.

***Геста Штольц – Давід Бранштэйн***

1.e4 c5 2.Kf3 Kc6 3.c3 e6 4.d4 d5 5.e5 Фb6 6.dc C:c5 7.Фc2 Фc7 8.Фe2 Kge7 9.Ce3 C:e3 10.Ф:e3 Kf5 11.Фe2 0-0 12.Ka3 f6 13.Kb5 Фa5 14.ef Л:f6 15.Фd2 a6 16.Kbd4 Kf:d4 17.cd Ф:d2+ 18.Кр:d2 Cd7 19.Cd3 Ce8 20.Крe3 Ch5 21.Ke5 K:e5 22.de d4+ 23.Кр:d4 Л:f2 24.Ce4 Лd8+ 25.Крc5 Л:b2 26.Лhb1 Лc8+ 27.Крd6 Лd2+, 0:1.

Жаночыя Алімпіяды вядуць адлік з 1957 года. У складзе зборнай СССР тады перамагла ***Кіра Зварыкіна*** (1919–2014), якая не адно дзесяцігоддзе пражыла ў Беларусі. Свой поспех паўтарыла на Алімпіядзе 1963 года (дзе была згуляна і партыя, якую мы прыводзім ніжэй). Віцэ-чэмпіёнка свету 1959 года, трохразовая чэмпіёнка СССР, неаднаразовая чэмпіёнка БССР.

***Кіра Зварыкіна – Марыяна Кульке***

1.e4 c5 2.Kf3 Kc6 3.d4 cd 4.K:d4 Kf6 5.Kc3 d6 6.Cg5 e6 7.Фd2 a6 8.0-0-0 Ce7 9.Крb1 0-0 10.f3 Фc7 11.Фf2 b5 12.Ce3 Cb7 13.K:c6 Ф:c6 14.Cd3 b4 15.Ke2 d5 16.e5 Kd7 17.Фg3 Лfc8 18.Фh3 g6 19.Фg3 Kc5 20.C:c5 C:c5 21.h4 f5 22.h5 Фe8 23.Kf4 Крg7 24.hg hg 25.Kh5+ Крf8 26.Kf6, 1:0.

## Мемарыяльны конкурс

Грузінская камісія па шахматнай кампазіцыі абвясціла конкурс складання ладзейных эцюдаў памяці вядомага эцюдыста Веляміра Каландадзэ. Арбітр – Давід Гургенідзэ, а ў якасці прызоў будуць кнігі В.Каландадзэ. Свае творы можна дасылаць да 1 лютага 2019 года на электронны адрас ***gurgenidze53@mail.ru*** ў фармаце PGN. Вынікі конкурсу будуць змешчаны ў маі 2019 года на сайце ***www.chessstar.com***.

## Праверце адказы

Задача ***А.Панкрацьева,*** змешчаная ў "Народнай Волі" 25 верасня, рашаецца: **1.Kg4.** Не вядзе да мэты ход 1.K5f3?, які прапанаваў Міхаіл Малееў (дарэчы, на f3 могуць пайсці абодва белыя кані, але ўсё роўна існуе абвяржэнне 1…Cb3! – і мата няма). Першымі правільна адказалі ***Ігар Ананіч***, ***Ігар Гулік***, ***Васіль Жуковіч***, ***Віктар Жук***, ***Сяргей Цяльпук***.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.

nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:

63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 15.10.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 705 экз. Заказ № 3723.